«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 12 (220), снежань 2024 года


# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 12 (220) (снежань)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


## Змест







Фота pxhere.com

**ФОРУМ**

# «Як жыць?»

## Надзея і безнадзейнасць у аповесцях Васіля БЫКАВА «Абеліск» і «Аблава»



Галіна САМОЙЛА

Чаму менавіта гэтыя творы мне захацелася параўнаць? Бо я заўважыла ў іх нейкую сінхроннасць і ў гучанні назваў, і ў лёсах галоўных герояў, несправядліва абвінавачаных уладай, і ў кампазіцыі — рамачнай, бо цяперашні час у іх з'яўляецца ў асноўным толькі фонам для разгортвання дзеяння, а асноўныя, глыбінныя падзеі адбываюцца ў мінулым, ва ўспамінах. Творы адносяцца да аднаго і таго ж жанру аповесці, прыблізна аднолькавыя па аб'ёме. У абодвух уздымаюцца балючыя пытанні: хто і як навешвае на людзей ярлыкі, якія выкрэсліваюць з жыцця і нават памяць імкнуцца знішчыць; ці ёсць мяжа, на якой заканчваецца адказнасць чалавека за тых, каго ён любіць; хто лепшы дарадца: душа ці розум; ці можна жыць, пераступіўшы праз сваё сумленне; калі памірае надзея — разам з чалавекам ці перш яна, а потым чалавек? Настрой твораў сумны, але ўсё ж у «Абеліску», па-мойму, больш надзеі, а ў «Аблаве» — безнадзейнасці.

Зразумела, што і настаўнік Алесь Іванавіч Мароз, і селянін Хведар Роўба — гэта ахвяры пануючай у краіне ідэалогіі, згодна з якой у палон трапляць нельга, быць уласнікам нельга, бо ў палон падчас вайны трапляюць толькі баязліўцы і здраднікі, а ўласніцкая псіхалогія ўласцівая толькі хцівым і жорсткім людзям, якія ненавідзяць Савецкую ўладу. Ніхто, чамусьці, не ўлічвае таго, што знешне аднолькавыя паводзіны чалавека могуць быць абумоўленымі зусім рознымі ўнутранымі матывамі. Дастаткова зазірнуць у душы герояў, і здрада Мароза пераўтворыцца ў высакароднасць, бо што ж іншае можа прымусіць настаўніка дабравольна здацца ворагам, каб памерці разам са сваімі вучнямі? А хцівасць Роўбы — у працавітасці і даверлівасці да той жа Савецкай улады, бо гэта ж яна прызнала яго чалавекам і падаравала прыстойны надзел зямлі. Дзіўным чынам ідэалогія пераўтварыла шматколерны і шматузроўневы свет жыцця ў аднамерны і чорны: зрабіў — адкажы, чаму зрабіў — няважна. Але ж ідэалогія — гэта ўсяго толькі сістэма ідэй, поглядаў, уяўленняў, адлюстраваных у грамадскай свядомасці. Так, ідэалогія патрэбная, яна абараняе дзяржаву ад разбурэння, умацоўвае яе. Толькі вось незразумела, як маглі нашкодзіць дзяржаве высока гуманны ўчынак Мароза, якім трэба хутчэй ганарыцца, чым няславіць яго, або імкненне Роўбы ўзбагаціцца праз працу, якое ўрэшце прывяло б да ўзбагачэння і самой краіны. Сама ідэалогія не судзіць, не карае і не знішчае чалавека. Усё гэта робяць людзі. І найчасцей не дзяржаўныя людзі, а звычайныя, простыя, якім не хочацца браць на сябе адказнасць, адстойваць праўду, праявіць звычайную спагаду.

Вось, напрыклад, учынак настаўніка Мароза перакруціў па-свойму паліцай Гагун Хведар, або Каін. Ён напісаў рапарт свайму начальству аб тым, што «ў часе аперацыі каманда паліцэйскіх захапіла ў палон завадатара мясцовай партызанскай банды Алеся Мароза». «Ведама, спрэс хлусня. Але Каіну гэта было выгадна, мусіць, таксама, як і яго начальству. Узялі хлопцаў, а праз тры дні злавілі і завадатара банды — было за што пахваліць старшага паліцая. І ўзнагародзіць. І ні ў кога ніякага сумнення наконт праўдзівасці рапарта». Далей Васіль Быкаў піша, што і камандаванне партызанскім атрадам «ненаўмысля пацвердзіла гэты дурацкі міф паліцая». Улетку запатрабавалі ў брыгаду даныя аб стратах за зіму і вясну. Начальнік штаба Кузняцоў склаў спіс, але не ведаў, як паказваць Мароза. Камандзір Селязнёў падумаў і сказаў Кузняцову: «А што круціць! Так і напішы: папаў у палон. А далей не наша дзела». Так і напісалі. І Ткачук, які потым распавядае пра ўсё гэта, прамаўчаў. Падумаў: пісаць, што сам здаўся, таксама нельга, ніхто гэтага не зразумее. «Так да нямецкага дадаўся яшчэ і наш дакумант, і паспрабуй цяпер абвергнуць гэтыя дзве паперкі. Лягчэй аказалася Волгу з Донам злучыць, чым да гэтае ісціны дакапацца», — расказвае Ткачук. Узнікае пытанне: ці так ужо ненаўмысля гэта было, людзі ж крыху падумалі, але менавіта крыху, і зрабілі так, як было прасцей для іх і хутчэй для тых, хто запатрабаваў звесткі. Ніхто не думаў пра Мароза, не шанаваў яго добрае імя, не клапаціўся пра яго добрую памяць. А хто гэта павінен быў зрабіць? Ну, вядома ж, не нейкі там начальнік высокі, які Мароза ніколі асабіста не ведаў, а яго паплечнікі па барацьбе з ворагам, землякі, сябры. Няўжо нельга было напісаць праўду: «Пайшоў да немцаў, каб вызваліць вучняў; ведаў, што дарэмна, але выбраў смерць разам са сваімі выхаванцамі, каб падтрымаць іх, каб быць прыкладам ім не толькі ў жыцці, але і ў смерці?» Так, вучні зрабілі непрадбачліва, па-дзіцячы, калі прыдумалі сваё пакаранне паліцаю Каіну, больш за тое, яны не паслухаліся настаўніка. Але ж гэта ён вучыў іх ненавісці да захопнікаў і любові да сваёй краіны. Як мог ён іх пакінуць сам-насам з іх жудаснай памылкай? Ён прыйшоў да іх, каб пацвердзіць гэтым, што ёсць такія памылкі, за якія даводзіцца плаціць жыццём, але і на такія памылкі чалавек мае права, і мае права быць дараваным, зразуметым і падтрыманым. Хто яшчэ можа адказаць за памылку разам з вучнем, калі не яго настаўнік, які вучыў і выхоўваў? Такі настаўнік памылку вучня прыме як сваю асабістую і адказвае за яе таксама асабіста. Ён прыйшоў яшчэ і таму, што немцы абяцалі адпусціць хлопцаў, калі ён прыйдзе. І хоць розум даводзіў, што гэта хлусня, але ж заставалася і надзея... А раптам? Калі б ён не прыйшоў, яго ніхто не пасмеў бы асудзіць. Ды толькі ў сэрцах шмат каго засталося б жыць гэтае: а раптам...

Заканчэнне на стар. 10 »

# Служыў навуцы верай і праўдай

## Да 100-годдзя з дня нараджэння Івана ЛЕПЕШАВА



Мікалай ДАНІЛОВІЧ

Калі гаворку заводзяць пра вучонага, звычайна згадваюць яго навуковыя дасягненні: колькасць створанай навуковай прадукцыі, важнасць і важкасць яе для грамадства, аналіз асноўных прац у плане іх актуальнасці, навізны, арыгінальнасці і г. д. Мне хацелася б спыніцца на іншым, успомніць Івана Якаўлевіча Лепешава як чалавека з яго светапогляднымі і маральнымі прынцыпамі, паводзінамі, адносінамі да людзей і да справы.

Філалагічная зорка І. Я. Лепешава ўзышла над зямлёю не выпадкова. Яна Богам падаравана, прадвызначана з самага пачатку. Цікавасць да слова выявілася з дзяцінства і з гадамі ўзмацнялася, перарастаючы ў захапленне, любоў, адданасць, патрэбу жыцця. І. Я. Лепешаў не раз успамінаў знакавы ў сваёй біяграфіі выпадак. У нялёгкі пасляваенны час, будучы студэнтам, атрымаўшы стыпендыю, зайшоў у кнігарню, каб глянуць кнігі, што паступілі на продаж. Убачыў на паліцы выданне класіка рускага і савецкага мовазнаўства В. У. Вінаградава «Русский язык: грамматическое учение о слове». Пагартаў: кніга салідная і аб'ёмам, і зместам. Так захацелася яе набыць. Але кошт… Якраз столькі, колькі месячная стыпендыя. Доўга вагаўся, купіць ці не. І ўсё-такі перамагло жаданне, вырашыў, што на галодным пайку нейк пераб'ецца на працягу месяца. Гэты томік В. У. Вінаградава да канца жыцця стаяў на відным месцы на паліцы ў працоўным пакоі. Надрукаваны на шэрай паперы, у звычайнай някідкай вокладцы, ён напамінаў І. Я. Лепешаву пра мінулае, сімвалізаваў юнацкую запаветную мару: стаць вучоным, непарыўную паяднанасць з навукай. Ён быў дарагі і таму, што ніколі не адлучаўся, быў заўсёды побач, нават у пакручастыя пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя разам ішлі па этапах і адбывалі ў сталінскіх лагерах.

І. Я. Лепешаў вельмі шмат чытаў. Проста дзіву даешся, як праз адны вочы і розум можна было прапусціць столькі чытання. Сотні, тысячы кніг, часопісы, газеты, спецыяльная лінгвістычная літаратура. Дзеля сваіх слоўнікаў, у пошуках фактычнага матэрыялу, ён перабраў аснову ўсёй тагачаснай беларускай мастацкай літаратуры. На яго працоўным стале заўсёды ляжалі свежыя нумары прагрэсіўных для свайго часу часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Огонёк», «Новый мир», газет «Літаратура і мастацтва», «Литературная газета», «Секретные исследования» і інш.

Прачытаным карцела падзяліцца са сваімі калегамі. Заўсёдным яго пытаннем пры сустрэчы было «Ці чыталі?», пасля чаго ў эмацыйнай манеры ішла характарыстыка твора. Ён быў актыўным прапагандыстам навінак літаратуры на бытавым узроўні, дзякуючы чаму многія калегі і студэнты таксама далучаліся да чытання канкрэтных твораў і матэрыялаў і на факультэце нязмушана стваралася агульная інфармацыйна-літаратурная прастора. Да канца свайго жыцця ён захоўваў на памяць вершы. Калі знойдзены ў друку верш быў па-мастацку арыгінальным, а па змесце злабадзённым, вострым, бунтарскім, — гэта якраз тое, што трэба запомніць. Завучаным абавязкова трэба было падзяліцца з іншымі, як яму здавалася, здзівіць, уразіць слухача, як і сам быў прыемна ўражаны. На калідоры, у аўдыторыі, у дэканаце ён не мог не закрануць сустрэчнага пытаннем «Ці чыталі?» і, пачуўшы адмоўны адказ, прапаноўваў: «Паслухайце». Дэкламацыя верша суправаджалася адпаведнымі жэстамі, эмацыйнай танальнасцю. Па заканчэнні «выступлення» вытрымлівалася невялічкая пытальная паўза, пасля якой ішла рытарычная рэмарка: «Ой, як здорава! Праўда?» Затым адшуквалася новая «ахвяра», і ўсё паўтаралася такім самым чынам. Прэзентацыя верша магла працягвацца некалькі дзён, аж да таго часу, пакуль ён не адыходзіў на задні план пад уплывам нейкага адшуканага іншага, не менш цікавага твора.

Асвечаны філалогіяй, І. Я. Лепешаў служыў толькі ёй, ні на ёту не дазваляў сабе адысці кудысьці ўбок і заняцца чым-небудзь іншым. Астатняе было для яго другарадным, непатрэбным, нікчэмным. Успамінаецца, як мы з ім (тады я быў аспірантам) завіталі ў кнігарню «Раніца». Ён, зразумела, адразу прыкіпеў да мовазнаўчага аддзела. Я прабегся па розных аддзелах і ў адным стаў гартаць кнігу, прысвечаную пчалярству. Яна здалася цікавай, бо напісана пчаляром-практыкам на падставе ўласнага досведу. Падышоў І. Я. Лепешаў і спытаў, што за кніга. Я патлумачыў, сказаўшы, што, відаць, куплю, папоўню свежым выданнем сваю ўласную пчалярскую бібліятэку. І. Я. Лепешаў узяў кнігу ў рукі, прабегся вачыма па тытульным лісце і грэбліва шпурнуў кнігу на паліцу, сказаўшы толькі адно слова-рэзюмэ: «Глупства!» Гэта было ўрокам, я зразумеў, што нашы сумесныя размовы-гутаркі ў далейшым не варта пашыраць за межы тэмаў мовы і літаратуры. Так яно і вялося.



Іван ЛЕПЕШАЎ. 1970-я гады

І. Я. Лепешаў цураўся розных бытавых спраў, якія падпільноўваюць чалавека ў паўсядзённым жыцці. Жонка Наталля Кліменцьеўна, ківаючы ў бок свайго мужа-вучонага, неяк скардзілася-хвалілася, што сама адрамантавала табурэткі. Рамонт уласнай кватэры даваўся гаспадару падобна пакутліваму тэрміну зняволення. Неарыентацыя дарослага чалавека ў бытавых пытаннях часам здзіўляла і забаўляла. Напрыклад, не ўмеў І. Я. Лепешаў карыстацца газіравальнымі аўтаматамі, якіх у савецкі час стаяла шмат на людных гарадскіх вуліцах. Давялося мне вучыць яго, як мыць шклянку, куды яе паставіць, у якую шчыліну ўсунуць манету, каб пацякла газіроўка. Аднойчы ў бяседзе, калі мы закусвалі селядцом, ён ашарашыў мяне пытаннем: «Слухайце, вось сялёдка — салёная, але ж яе спецыяльна не соляць, бо яна плавае ў салёным моры і ўжо сама па сабе салёная?» Калі я адчуў, што мой субяседнік не жартуе, а пытае на поўным сур'ёзе, ледзь стрымаўся, каб не разрагатацца. Стаў тлумачыць, што сялёдка, хоць і плавае ў моры, усё ж ад гэтага не становіцца салёнай, для харчовых патрэбаў яе заліваюць спецыяльным салёным расолам. З бытавых пытанняў адзінае, што пастаянна турбавала І. Я. Лепешава, — гэта набыццё паперы для друку і ленты для друкарскай машынкі «Эрыка», за якой ён сядзеў безвылазна. Гэтыя рэчы ў савецкі час былі дэфіцытам, і даводзілася знаходзіць каналы, праз якія іх можна было дастаць.

Нежаданне і бездапаможнасць І. Я. Лепешава ў паўсядзённых бытавых справах не выглядала нейкай заганай, бо было зразумела і відавочна, што яны, сапраўды, перашкода асноўнай дзейнасці: толькі адбіраюць час, такі дарагі і патрэбны для чытання, абдумвання навуковых праблем, напісання чарговых прац. Затое артыкулы і кнігі пад пяром даследчыка раслі як грыбы пасля дажджу.

Яшчэ адна якасць І. Я. Лепешава, што дапамагла дасягнуць вяршынь, гэта незвычайная працавітасць, працаздольнасць. Яго навуковы кіраўнік Ф. М. Янкоўскі называў свайго вучня «танкам у навуцы», які любімай справе аддаваў сябе цалкам, мог працаваць дзень і ноч не стамляючыся і хутка дабівацца вынікаў. Памятаю, калі не было яшчэ камп'ютараў, друкаванне тэкстаў ажыццяўлялася ўручную на машынцы. Рукапісы сваіх кніг І. Я. Лепешаў друкаваў сам. Выдавецтва патрабавала два добра вычытаныя экзэмпляры. Дапамагчы вычытаць І. Я. Лепешаў прасіў мяне. Мы сядалі поруч, у кожнага на стале перад вачыма адзін экзэмпляр рукапісу, у руках — ручка. Лепешаў уголас чытае першы экзэмпляр, я адсочваю аналагічны тэкст па другім экзэмпляры. Сінхронна выпраўляем памылкі, робім падчыстку, падкрэсліванні ў радках. Праца напружаная і марудная, вымагае ўважлівасці. І так цэлы дзень. К вечару я, малады, адчуваю сябе як выціснуты лімон, а І. Я. Лепешаву (старэйшаму за мяне на 31 год) хоць бы што, як бы і не працаваў. Гэта вось такая зайздросная фізічная і псіхічная цягавітасць чалавека.

А сюды далучаецца яшчэ і настойлівасць. Любое пастаўленае перад сабой пытанне І. Я. Лепешаў абдумваў у дэталях і вырашаў, абавязкова даводзіў да канца, не спадзеючыся на некага, як бы складана і цяжка гэта ні было. Напрыклад, трэба знайсці цытату на пэўны фразеалагізм, а адкуль яе ўзяць, невядома. І. Я. Лепешаў ідзе ў бібліятэку, набівае партфель кнігамі і дома заложна, нагбом чытае-чытае, шукае цытату. Бывала, некалькі партфеляў кніг перабярэ, пакуль сустрэнецца патрэбнае. І гэта ўсё дзеля аднаго фразеалагізма!

У Беларусі, і не толькі, добра ведаюць двухтомны літаратурны «Слоўнік фразеалагізмаў» І. Я. Лепешава, але мала хто задумваецца, якая каласальная праца спатрэбілася для яго стварэння. Усё у гэтым слоўніку зроблена І. Я. Лепешавым адзінаасобна і ўпершыню, беларускіх аналагаў не было. Картатэка слоўніка склала каля ста тысяч картак-цытат. Я ў свой час таксама складаў фразеалагічную картатэку і тады захацеў праверыць, колькі часу затрачваецца на выпісванне цытат з фразеалагізмамі на картку. Адрэзкам часу для эксперыменту вырашыў узяць адзін дзень. Вынікі наступныя: на працягу дня, з раніцы да вечара, мне ўдалося ад сілы выпісаць сто цытат, значыць, аформіць сто картак. Думаю, што І. Я. Лепешаў пісаў ад рукі прыкладна такім жа тэмпам. А цяпер падлічым, колькі дзён ён патраціў толькі на выпіскі, каб запоўніць сто тысяч картак. Праводзім арыфметычнае дзеянне: 100000 : 100 = 1000. Атрымліваецца адна тысяча дзён. Толькі выпісванне забрала ў фразеографа каля трох гадоў. А перад гэтым трэба было прачытаць творы пісьменнікаў, выявіць у іх фразеалагізмы і абазначыць цытаты. Пасля іх выпісвання — стварыць картатэку і на базе яе — рэестр слоўніка. Затым — афармленне слоўнікавых артыкулаў і, нарэшце, укладанне нарматыўнага ўніверсальнага слоўніка, набор яго на машынцы (аб'ём — каля дзвюх тысяч машынапісных старонак). Зразумела, што ўся гэтая праца ажыццяўлялася не запар, цягнулася дзесяцігоддзі.




І. Я. Лепешаў сваю працу выконваў адказна і грунтоўна. Прыступіўшы да распрацоўкі ці то артыкула, ці то кнігі, ён вывучаў усё, што да яго па тэме зрабілі папярэднікі, унікаў у нявысветленыя ці спрэчныя пытанні. І калі пераконваўся, што ўсе моманты бачацца празрыста, што адышлі ўсе няяснасці і сумненні, толькі тады прыступаў да напісання. Таму ўсе яго артыкулы і раздзелы кніг не з'яўляюцца фармальнымі аднадзёнкамі, яны характарызуюцца грунтоўнацю, навізной, актуальнасцю.

У працы І. Я. Лепешаў быў вельмі акуратны, нават у нечым педантычны. Невялікі пакой у сваёй кватэры на бульвары Ленінскага камсамола ён пераўтварыў у сціплую навуковую лабараторыю, з якой выходзіла вялікая навука. Усё тут было дарэчы і на сваім месцы: кніжная шафа, спецыяльна выробленая шафа для картатэкі, пісьмовы стол, крэсла, канапа для адпачынку. Нічога лішняга, толькі самае неабходнае, спрыяльнае для працы. Навуковую гаспадарку І. Я. Лепешаў даглядаў ідэальна. Стол заўсёды чысты, не завалены. Калі патрэбна была нейкая кніга, І. Я. Лепешаў уставаў з-за стала, падыходзіў да шафы і браў кнігу. Папрацаваўшы, не ленаваўся адразу вярнуць яе назад, ставіў не абы-куды, а на сваё адведзенае месца. Усе рабочыя матэрыялы даследчыка былі сістэматызаваны, пранумараваны, раскладзены па папках і шуфлядах. Вяліся каляндарна-статыстычныя запісы, напрыклад, у асобным сшытку адлюстроўвалася «біяграфія» кожнага ўласнага артыкула: назва, калі быў напісаны, дата адпраўкі ў пэўны часопіс ці зборнік, далейшыя выдавецкія працэдуры, звязаныя з падрыхтоўкай артыкула да друку, дата апублікавання.

Заканчэнне на стар. 3 »

# Служыў навуцы верай і праўдай

## Да 100-годдзя з дня нараджэння Івана ЛЕПЕШАВА

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 2

Шлях кожнага артыкула аж да выхаду яго ў свет трымаўся на кантролі. У гэтым плане І. Я. Лепешаў быў добрым, як сёння кажуць, менеджарам. Тыдні праз два пасля адпраўкі артыкула ён тэлефанаваў у рэдакцыю і як бы цікавіўся, ці атрымалі, ці дайшоў артыкул. Месяцы праз два ён зноў тэлефанаваў з напамінкам пра свой артыкул і запытаннем пра яго далейшы рэдакцыйны рух. Гэтак паўтаралася некалькі разоў. Калі падрыхтоўка артыкула да друку зацягвалася, тэлефанаванні станавіліся часцейшымі і настойлівейшымі. Нярэдка рэдактары не вытрымлівалі «бамбардзіроўкі» аўтара і пускалі ў друк артыкул па-за чаргі.

Хто толькі ні перабываў у пакойчыку І. Я. Лепешава. Дзеля эканоміі часу, каб не марнаваць яго на дарогу ва ўніверсітэт і назад, ён прызначаў кансультацыі курсавікам, дыпломнікам, магістрантам, аспірантам у сябе дома. Мноства разоў завітвалі да яго па розных пытаннях і калегі па працы, выдавецкія работнікі, карэспандэнты. У гаспадара і ў думках не было пра нейкую там «карупцыю», бо ёю і не пахла. Наадварот, ён сам часта меў добраахвотныя выдаткі: мог пачаставаць кавай ці нават прапанаваць разам папалуднаваць, калі праца зацягвалася. Гэтыя хатнія візіты да вучонага былі вельмі карысныя, асабліва для тых, хто пачынаў займацца навукай. Пачаткоўцы бачылі, як ствараецца навука непасрэдна на рабочай кухні, пераймалі вопыт працы старэйшага настаўніка і калегі.

Кожнаму свайму толькі што апублікаванаму артыкулу І. Я. Лепешаў шчыра радаваўся, як новананароджанаму дзіцяці. Чытаў і перачытваў, адсочваючы, ці ўсё, да апошняй літары, да апошняга знака прыпынку, адпавядае рукапіснаму арыгіналу. З задавальненнем мог прачытаць публікацыю камусьці са сваіх калег ці аспірантаў, калі ўдавалася ўгаварыць паслухаць. Усе свае публікацыі І. Я. Лепешаў збіраў разам і брашураваў па гадах. Для гэтага навучыўся самастойна рабіць пераплёт, часам звяртаўся па дапамогу ў пераплётную майстэрню.

Патрабавальнасць да сябе і да сваёй працы праектавалася і на даследаванні іншых аўтараў. Калі І. Я. Лепешаў сустракаў у друку прымітыўныя, халтурныя, кампіляцыйныя ці лжэнавуковыя матэрыялы, не мог прайсці міма гэтага. Рэагаваў адпаведным чынам у розных формах: крытычным артыкулам, выступленнем на канферэнцыі, выказваннем заўваг аўтару непасрэдна ў гутарцы па тэлефоне ці пры сустрэчы.

Памятаю, калі я быў студэнтам, І. Я. Лепешаў выкладаў у нашай групе курс «Практыкум па арфаграфіі». Якраз у той час у БДУ быў выдадзены дапаможнік



Іван ЛЕПЕШАЎ. 2000-я гады

для студэнтаў па арфаграфіі, па якім нам трэба было засвоіць вучэбную дысцыпліну. Уважліва прачытаўшы дапаможнік, І. Я. Лепешаў, знайшоў у ім каля ста арфаграфічных памылак. Ён ніяк не мог утаймаваць сваё абурэнне, на практычных занятках мы разбіралі ўсе гэтыя памылкі, цвёрда запамінаючы, што так пісаць нельга. У хуткім часе крытычная рэакцыя І. Я. Лепешава вылілася ў артыкул, апублікаваны ў часопісе «Полымя», з каламбурна-саркастычным загалоўкам «Арфаграфічныя агрэхі ў дапаможніку па арфаграфіі» («Полымя», 1973, № 10), які мы, студэнты, чыталі і перачытвалі, пранікаючыся павагай да свайго выкладчыка, такога разумнага і справядлівага.

Крытычныя артыкулы, як водгук на новыя публікацыі, з'яўляліся пад пяром І. Я. Лепешава нярэдка. Абгрунтаваная, аб'ектыўная крытыка не была выбіральнай. Даставалася ўсім, хто дапусціў недагляды ці навуковыя няправільнасці: і стваральнікам акадэмічных выданняў, і тытулаваным універсітэцкім навукоўцам, і аматарам-самавукам.

У публічных вусных дыскусіях І. Я. Лепешаў горача адстойваў сваю пазіцыю. Часам пры гэтым эмоцыі бралі верх, і пачуццё тактоўнасці магло саступаць месца нястрыманасці. Вербальныя сродкі не выбіраліся, нават высокаму начальству ён мог у вочы кінуць не зусім прыемныя словы, за што яго начальства асцерагалася. Але гэта прафесара не бянтэжыла. Адзіным начальнікам, якому ён пакланяўся, была яе вялікасць Навука, толькі ёй пакланяўся, толькі ёй служыў верай і праўдай. У адным з інтэрв'ю на пытанне «Якія пісьменнікі ўрэшце былі выкасаваныя з Вашага слоўніка?» Іван Лепешаў адразу ж прызнаўся: «Я магу іх пералічыць (па алфавіце): Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, Сяргей Астравец, Ларыса Геніюш, Сяргей Дубавец, Сяргей Законнікаў, Аляксандар Лукашук, Іван Макаловіч, Вінцэсь Мудроў, Уладзімір Някляеў, Вольга Паўлава, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Міхась Скобла, Масей Сяднёў. 15 асобаў. Апрача таго, у мяне там былі цытаты з розных перыядычных выданняў, з газетаў і часопісаў. То пяць з іх таксама патрапілі пад забарону Пашкова (Г. П. Пашкоў быў у той час дырэктарам выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. — *Рэд.*) Гэта часопіс «Дзеяслоў» і незалежныя газеты...»

Асоба І. Я. Лепешава прыцягвала да сябе калегаў і студэнтаў. З ім кожны адчуваў сябе лёгка і нязмушана, відаць, таму, што ён быў непасрэдны, шчыры, просты, нават у нечым прастакаваты. Ніколі не нёс сябе высока, да ўсіх звяртаўся толькі «на вы», са студэнтамі-хлопцамі вітаўся за руку. Найбольшую прыязнасць ён выяўляў да тых, хто быў здольны да вучобы і навукі. Ён проста апякаў студэнтаў, якія вучыліся на выдатна і маглі самастойна напісаць вартую курсавую ці дыпломную працу. Бацькоўскім клопатам былі адораны яго аспіранты. Здольных аспірантаў ён любіў, ледзь не на руках насіў, дапамагаў, спрыяў, як мог, ва ўсім. З надзейным навуковым багажом падводзіў іх да абароны дысертацыі.

Калі І. Я. Лепешаў адчуваў шчырасць ва ўзаемаадносінах, ён цалкам давяраў і давяраўся прыяцелю, нягледзячы на ўзроставую дыстанцыю. Напалову маладзейшаму за сябе мог даверыць усе свае таямніцы, расказаць пра свае балячкі, нелады ў сямейным жыцці, перыпетыі ўласнай біяграфіі. Ну але на першым месцы ў кантактаванні, канешне, перавагу мела навука. Ён мог патэлефанаваць і без субардынацый, проста па-сяброўску спытаць: «Што робіце? Што сёння напісалі?» Затым падзяліцца, што напісаў ён, якія складанасці ўзніклі пры вывучэнні пытання. Мог прапанаваць трохі развеяцца, разам прагуляцца. Мы сустракаліся, ішлі ў Пышкі, да Нёмана. Па дарозе абмяркоўвалі навуковыя пытанні, чыталі адзін аднаму свежанапісанае, ён — сваё, я — сваё. Тут жа давалі ацэнку, выказвалі заўвагі і пажаданні.

Здраду І. Я. Лепешаў пераносіў вельмі балюча, раніма. Ён не мог зразумець, змірыцца, як такое можа быць. З усёй шчырасцю і адкрытасцю давяраў яму ці ёй, дапамагаў, спрыяў, як мог. І тут — на табе, у самы адказны момант не падтрымалі, падвялі, падставілі. Мог у вочы выказаць прэтэнзіі ў рэзкай, нават грубай форме тыпу «Я з вамі ў разведку не пайшоў бы», «А моська, знать, сильна, коль лает на слона», «Я з ім на адным полі не сяду». Мог пэўны перыяд не размаўляць са сваім крыўдзіцелем, не вітацца. Але праходзіў час, і ўсё вярталася на кругі свае. І. Я. Лепешаў быў не злапомны. Ды што там нейкі канфлікт, самае галоўнае — навука, астатняе — так сабе, дробязь, не вартая таго, каб з-за гэтага траціць нярвовыя клеткі.

...Дзве раны не загойваліся да канца жыцця. Адну з іх І. Я. Лепешаў атрымаў у баях пад Кёнігсбергам. Асколак засеў паміж пазваночнікам і сэрцам. Хірургі не адважваліся зрабіць аперацыю. Вельмі рызыкоўна, можна пашкодзіць важныя нярвовыя вузлы арганізма, і тады — канец або інваліднасць. Так і жыў з металам у целе, які час ад часу даваў пра сябе знаць, асабліва напамінаў пры фізічных нагрузках ці пры змене надвор'я. Але нічога, жыць можна. А вось другая рана больш сур'ёзная і балючая. Пасля вайны І. Я. Лепешаў, як і мільёны суайчыннікаў, трапіў у сталінскі лагер, адбываў тэрмін на поўначы Расіі. І хоць пасля смерці Сталіна быў вызвалены і рэабілітаваны, усё роўна рана несправядлівасці ніяк не зажывала, крываточыла. Псіхалагічны боль абвастраўся асабліва тады, калі нядобразычлівцы, зайздроснікі спрабавалі насаліць, учыніць подласць. А такія ў адносінах да І. Я. Лепешава, справядлівага, адкрытага і бескампраміснага ў навуковых дыскусіях, несумненна, знаходзіліся. Ён моцна перажываў, хоць і разумеў, што падобныя выпады ў яго адрас — усяго толькі лыскаў брэх з-за плоту, што праўду нельга зацьміць, заплямiць.



З экспазіцыі, прысвечанай навукоўцу, у Навуковай бібліятэцы ГрДУ імя Янкі Купалы

Высокая прафесійнасць, акуратнасць у працы, пунктуальнасць і іншыя станоўчыя якасці І. Я. Лепешава не маглі быць не заўважаны ўніверсітэцкім начальствам. У розны час былі прапановы паспрабаваць сябе на пасадах кіраўніка: прарэктара, дэкана, загадчыка кафедры. Сумненняў, што справіцца, у самога не было, але душа да гэтага не ляжала. А як жа тады навука? Пагадзіцца — значыць, адсунуць навуку ўбок, здрадзіць ёй. Не, на гэта ён пайсці не мог. Дзеля тактоўнасці з прыхаваным гумарам даваў начальству адказ: яшчэ ранавата, яшчэ не дарос.

У вялікую навуку І. Я. Лепешаў увайшоў са спазненнем, кандыдацкую дысертацыю абараніў, калі меў 48 гадоў. Пракляты ГУЛАГ і паслягулагаўскія турбацыі з'елі найлепшыя гады жыцця. Напэўна, таму працаваў так заложна, апантана: у планах столькі ўсяго трэба зрабіць, і невядома, колькі наперадзе застаецца адпушчанага часу. І зрабіў, паспеў. За чатыры дзесяцігоддзі навукова-педагагічнай дзейнасці прафесар, доктар філалагічных навук І. Я. Лепешаў стварыў такі аб'ём навуковай прадукцыі, якім мог бы пахваліцца цэлы творчы калектыў. На аўтарскім рахунку вучонага 650 артыкулаў і 47 кніг. Толькі пералік публікацый вучонага заняў бы дзясяткі старонак. У век навуковай спецыялізацыі І. Я. Лепешаў належыць да нешматлікага кола даследчыкаў, абсяг навуковых інтарэсаў якіх differs рознабаковы і шматгранны. Ён і лінгвіст, і літаратуразнавец, і гісторык, да таго яшчэ і выдатны публіцыст.

Яго моцна хваляваў лёс беларускай мовы. Яе неапраўдана прыніжанае становішча, відаць, падсвядома нагадвала і пра свой такі ж гаротны лёс у маладыя гады. Ён праз навуку служыў беларускай мове аддана, адстойваў яе ў публіцыстычных артыкулах, страсна бараніў у публічных выступленнях і дыскусіях.

Пайшоў І. Я. Лепешаў у лепшы свет пад свае 90 з чыстым сумленнем і светлай душой. Сёлета яму было б 100. Яго так не хапае Купалаўскаму ўніверсітэту ў Гародні і лінгвістычнай супольнасці ў Беларусі.

# Сямейнае табу



Мечыслаў КУРЫЛОВІЧ

## Заручыны

1917-ты год. Ксёндз у Гожскім касцёле аб'яўляе аб заручынах Марыяны і Бранiслава Ланеўскага. Справа стаяць мужчыны, злева жанчыны. І ўсім цікава, але асабліва тым, хто стаіць злева, паглядзець на стройнага, сімпатычнага, не беднага хлопца, які мае намер ажаніцца са спрытненькай, бялявай дзяўчынай, да таго ж з нядрэнным пасагам. (Грошы для Марыяны прыслаў з Амерыкі дзядзька.) Пасля імшы і левыя, і правыя расступаюцца, каб прапусціць жаніха і нявесту, і яны павольна, узяўшыся за рукі, усміхаючыся, ідуць паўз жывы калідор на вуліцу.

Серыял заручын доўжыцца кожную нядзельку на працягу месяца. У дзяўчат даспяваюць сны пра рыцара на белым коніку. Родзічы перaтрасаюць куфры ў пошуках падарункаў для маладых. Засталося некалькі дзён да шлюбу. Жанчыны прабуюць пальцам пханую, мужыкі — крыштальную за сорак градусаў жытнёўку (не горшая, чым царская манапольная). У коней расчэсаны грывы, упрыгожаны брычкі, на дарозе перад хатай Марыяны вяскоўцы паставілі браму, праз якую будзе ехаць малады да нявесты з нядрэнным выкупам.

Але Ланеўскі ў той дзень не прыехаў. У той дзень ён развітваўся з мамай і татам перад нечаканым і раптоўным прызывам у толькі што народжанае войска Саветаў. Калі зухаватыя хлопцы матроса Жалезняка везлі яго каля хаты Марыяны, яна выскачыла ў вэлюме і кінулася да яго з абдымкамі, выкрыкваючы: «Ён мой, я вам яго не аддам, не маеце права!» Збянтэжаныя салдаты зніякавелі, не першы раз адвозяць рэкрутаў, але каб такое — упершыню. Калі кульнулі па кілішку, паскардзіліся на свой незайздросны лёс паднявольных людзей і паабяцалі, што толькі завязуць яго ў Гродна, а там разбяруцца.

Бунту не адбылося. Сярод вяскоўцаў яшчэ не нарадзіўся новы Каліноўскі. Разгублена глядзелі на дарогу, як знікае з вачэй брычка з салдатамі і Ланеўскім, а збоку (дазволілі правесці да крыжа) ідзе ў вэлюме Марыяна.

Марыяна і Ланеўскі сустрэліся праз некалькі гадоў, калі Саветы спешна замялі сляды зніклай царскай сям'і. З Паўночна-Заходняга краю Ланеўскі вярнуўся на Крэсы. За гэты час Марыяна выйшла замуж за Антона Казлоўскага і паспела нарадзіць яму сына. Канец — як у паэме Пушкіна: «Я вас люблю, к чему лукавить»…

А Ланеўскі ў міжваенным часе выехаў у ЗША, дзе да апошняга дня свайго заставаўся халасцяком.

## Вочы

Сваяк па кудзелі — Віктар Генрыхавіч Казлоўскі (1962—1983), курсант Ленінградскага вышэйшага ракетна-зенітнага вучылішча, якое закончыў за тры месяцы да паяднання з Богам.

Я быў на тым пахаванні, і не дай Бог пабачыць мне яшчэ хоць раз такое гора матулі, якая хавае свайго адзінага сына. Хавалі вайскоўцы з той часці, дзе служыў Віктар. Хавалі з ваеннымі ўшанаваннямі.

З цягам часу выплацілі і даніну: высачэзны гранітны помнік. Амаль самы высокі на Гожскіх могілках, побач з якім цераз пяць гадоў знайшла прытулак і яго мама Стэфанія. Памерла ад анкалагічнага захворвання. Стрэсавы пускавы механізм рака папрацаваў напоўніцу.

Падчас выезду танка з гаража абвалілася бетонная гаражная канструкцыя, і менавіта ў той кропцы, дзе знаходзіўся Віктар. На пахаванні я запытаўся ў камандзіра часці:

— Хто вінаваты: маладзенькі, зялёны лейтэнанцік Віктар ці яшчэ хто-небудзь, хто адказваў за тэхніку бяспекі?

— Камандзір роты згубіў зорку, старшыну выгналі, — адказаў падпалкоўнік і дадаў: — У войску трэба вучыцца думаць, а Віктар яшчэ не ўмеў думаць.

Вядома ж, яшчэ не ўмеў. Не ўсе ж людзі ў дваццаць адзін год могуць быць Аляксандрам Македонскім.

Гляджу на фотаздымак Віктара і ўваскрашаю сустрэчу трыццацігадовай даўніны, калі ён са сваім бацькам быў у мяне. Вясёлы, эмацыйны, амбітны ў добрым сэнсе гэтага слова, лейтэнант. Не курыў, не піў. Толькі ў вачах, як мне падалося, нейкая загадкавая занепакоенасць: ці то туга, ці то асуджанасць. І цяпер, калі яшчэ раз сустрэўся з ім на фатаграфіі, маё перакананне не змянілася. Вочы. У іх штосьці трагічнае, як запланаваная карма.



Фота istockphoto.com

Нешта падобнае ў мяне ўзнікае, калі ўглядаюся ў фотаздымак маладзенькай, прыгожай Яўгеніі Янішчыц. Вочы гавораць, толькі не ўсе ўмеюць прачытаць — пра што. А такія людзі ёсць.

Падчас працы ў Першым гарадскім шпіталі Гародні мяне (і не толькі) заўсёды здзіўлялі нетравіяльныя здольнасці ўчастковага тэрапеўта. Ёй не патрэбны былі аналізы, ёй дастакова было паглядзець хвораму ў вочы. Аднаго разу я папрасіў яе пракансультаваць маю пацыентку: «Мечыслаў, супакой хворую, няма ў яе анкалогіі». Вяртаюся з хворай з той кансультацыі ў свой кабінет і думаю, як гэта няма: хірургі на чале з прафесарам падчас аперацыі бачылі сваімі вачыма цвёрдую, як камень, аграмадную пухліну, з метастазамі ў лімфавузлах па ўсім жываце. Нават кавалачак пухліны ўзялі на аналіз. Праўда, гістолаг ракавых клетак там не знайшоў, але такое бывае, хаця і не часта. Зашылі жывот і адправілі паміраць. Я зрабіў, што мог: першую групу інваліднасці і, каб не мучылася ад болю, выпісаў наркотыкі. У калароўроце папяровых справаздачаў, адпісак і прыпісак пра яе і забыўся. А праз год заходжу па дарозе з працы ў прадуктовы магазін — падыходзіць жанчына і ціха пытае: «Доктар, можа, вам грэчка патрэбна?» Дарэчы, грэчка была патрэбна, на паліцах прадуктовых магазінаў яе не было. Яшчэ раз пазнаёміліся, бо я яе не пазнаў. Інвалід першай групы з запушчаным ракам падстраўнікавай залозы, стройная, з вясёлай усмешкай на прывабных вуснах, працуе ў гэтай прадуктовай краме і мне ў знак падзякі за дзейсныя лекі хоча з падпрылаўка прадаць кілаграм грэчкі. Я ішоў дахаты з грэчкай і яшчэ раз думаў: што бачыла ў яе вачах мая каляжанка па працы? Напэўна, усё, што заўгодна, толькі не смерць.

## На Дзяды

Юрканіс Франц. Яго прадзед і мой дзед — родныя браты. Пераняў ад бацькоў не кепскую якасць: не здавацца пры любых абставінах. У 1982 годзе скончыў Гродзенскі палітэхнікум, у 1991-м Мінскую політэхнічную акадэмію. У вэрхальным змаганні ў 90-х гадах мінулага стагоддзя за месца пад сонцам заняўся бізнэсам. І не прагадаў. Самадастатковы прадпрымальнік па сантэхнічным абсталяванні ў Гародні. Цяпер у Франка ёсць грошы, хата, лецішча, кемлівы, дасціпны сын Жэня і, як матылёчак на першай кветцы, дачка Вераніка, а яшчэ інтуітыўныя вочы жонкі Ірыны і невялічкія праблемы са здароўем. І пры сустрэчах я яму заўсёды (па закаранелай звычцы) ка́паю на мазгі: грошы не робяць чалавека шчаслівым, тым больш здаровым. Здароўе — гэта найперш змаганне з самім сабою: нізкакаларыйная ежа і кожны дзень пяцікіламетровы мацыён. Ён з усмешкаю са мною пагаджаецца: «Заўтра так і зраблю». І я з яго ўсмешкаю пагаджаюся і дабаўляю: заўтра можа і не быць, жыві толькі тым днём, які дае табе Бог. Не ведаю, чым закончыцца наш «паядынак», аднак я яму веру: бацькоўскія гены — гэта падспудная памяць, і яна ў яго ёсць.

Неяк на Дзяды мы саграшылі: дазволілі сабе кульнуць за іх нябеснае жытло і трэцюю. А ён, прыжмурыўшы вока, задае мне правакацыйнае пытанне:

— А ці магу я атрымаць амерыканскае грамадзянства? Мая ж бабуля Стэфанія была грамадзянкай Штатаў, ды і мама там жа нарадзілася…

Пасля чацвёртай і я ўжо быў грамадзянінам Штатаў. Ах, як нам хацелася тады хоць адным вокам цераз замочную шчыліну паглядзець на тых амерыканцаў. Праз пяць гадоў я іх пабачыў і быў вельмі здзіўлены, калі мяне, бульбаша (наш карабель стаяў у Бостанскім порце) па рацыі папрасілі спусціцца на прычал і пагаварыць з нейкім маладым хлопцам, які шукаў земляко́ў з Беларусі, але размаўляў на незразумелай (нярускай) мове. Амерыканец у трэцім пакаленні. І ўсё, што ў яго засталося ад дзеда — гэта мова. Чыстая, крыштальная, без паланізмаў і русізмаў. А колькі было шчырай, я б сказаў дзіцячай радасці ў яго сінявокіх вачах, бы ў Калумба, які ўпершыню ўбачыў чаканую зямлю. Відавочна, я для яго быў жывым пацвярджэннем: Беларусь — гэта не дзедава выдумка.

## Сямейнае табу

Першапачатковую адукацыю па земляробству цётка Стася атрымала ад мамы, з цягам часу — і па вышыванні ў прафесійна-тэхнічнай школе ў Гродне. Пасля прыходу другіх Саветаў папоўніла шэрагі працоўнага класа будаўнікоў сацыялізму на водазаборнай станцыі Гародні.

Выкшталцона размаўляла на польскай, рускай і матчынай мовах. Заўсёды з усмешкай. Вострая на язык. Тамада любой кампаніі. Я неаднойчы быў сведкам, калі на сямейных святкаваннях нехта адсутнічаў, то гэтага ніхто не заўважаў, а калі адсутнічала цётка Стася — заўважалі ўсе.

Мне здавалася, што дзядзьку Адама я знаю дасканала і даўно, як і сваю арыстакратычна-шляхетную цётачку Станіславу. Сціплы, нешматслоўны і заўсёды з нейкім таямнічым сумам. Але аднойчы, дзякуючы яго вялікасці выпадку, я ўбачыў, што гэта зусім іншы чалавек. І гэтае метамарфознае пераўвасабленне дзядзькі засталося ў маёй памяці назаўсёды.

Было гэта ў 1962 годзе, калі (чытаў у «Праўдзе») амерыканскія спецслужбы для зруйнавання ў Сінявокай паспяхова культывуючай монакультуры, а менавіта бульбы, закінулі тады яшчэ нікому не зразумелага жука, які быў бульбашом у квадраце, бо любіў гэтую бульбу, як ніхто на свеце. Тутэйшыя абарыгены, прынамсі, навакольных вёсак Гародні, пасля двуногага крамлёўскага, на гэтага каларадскага бульбаша асаблівай увагі не звярталі. Але ў аблвыканкаме, дзе ў той час у хлебаробным аддзеле змагаўся за плённа-высокія ўраджаі дзядзька Адам, на гэтага «прыгажуна» глядзелі крыху інакш, бо генеральнай лініяй партыі, якую ў той час ачольваў найвялікшы хлебароб Усяе Расіі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, была пастаўлена задача: мабілізаваць на перадавую з ворагам амерыканскага імперыялізму вучняў, студэнтаў, пэтэвушнікаў ды і ўсю, з іх задорам і імпэтам, крылата-зоркавую камсамольскую моладзь.

Не ведаю, як праводзіў мабілізацыю Адам Шаркоўскі, але аднойчы, як студэнта другога курса Гродзенскага медыцынскага інстытута, у гэтае ганаровае кола барацьбітоў з жуком ён запрасіў і мяне. Я прыняў яго прапанову не тое, што без энтузіязму, а хутчэй як просьбу па сваяцкай лініі. Праўда, была там маленькая фішка: за кожнага жучка абяцалі заплаціць тры капейкі (хлеб тады каштаваў 12, праезд у аўтобусе 4). Палазіўшы ў вёсцы Пярэсялка па бабуліным картапляным агародзе, мой запалкавы карабок за паўгадзіны ўжо цягнуў на тры рублі. Шалёныя грошы для студэнта за трыццаць хвілін працы, пры стыпэндыі ў трыццаць рублёў. І з гэтым скарбам падаўся ў аблвыканкам да дзядзькі Адама. Не памятаю, ці атрымаў я тыя тры рублі, але лекцыя Адама Шаркоўскага пра каларадскага жука мне помніцца яшчэ і сёння.

З той сустрэчы мінула пяцьдзясят гадоў. Няма ўжо дзядзькі Адама, але я заўсёды чую яго словы і бачу яго такім, якім ён быў у якасці лектара. Строгі ангельскі касцюм, белая накрухмаленая кашуля, матылёк, у вачах памаладзелыя іскрынкі, інтрыгуючыя паўзы, артыстычныя рухі рук, адметная загадкавая ўсмешка, вострыя з гумарам жарты і дасціпныя адказы на рэплікі. Каля гадзіны і без шпаргалкі, а нас у зале каля пяцідзесяці юнакоў і дзяўчат, і завароженая цішыня. А пасля бясконцыя пытанні, і асабліва ад дзяўчат. Я глядзеў на іх і зайздросціў дзядзьку. Вось бы мне такі поспех ад лепшай палоўы. Вядома ж, у той ягонай польскай гаспадарчай гімназіі вывучалі рыторыку, харэаграфію, літаратуру і г. д.

Дзве постаці ў адной асобе. У побытавым атачэнні — ціхі, стрыманы, з нейкім болем суму і трывогі — і зусім другі ў якасці лектара, прамоўцы: з узнёсла-вясёлым і дасціпна-загадкавым імпэтам і пераканаўчымі тэзамі ў Слове.

Пра прычыну дзядзькавага смутку я даведаўся значна пазней. Толькі падчас Гарбачоўскай галоснасці была раскрыта таямніца (сямейнае табу) Шаркоўскіх. Яго бацькі (мама і тата) пасля прыходу першых Саветаў раздзялілі лёс кулацкага элемента. І гэты жах усё жыццё сядзеў у яго сэрцы.

# Сведчанні

## Санеты Дабравесця



Уладзімір МАРОЗ

### Наканаванне

*Калі надыдзе момант адмысловы,*
*Гісторыя сатчэцца спакваля —*
*Адкрые свет Народзіны Хрыстовы;*
*Салодка спіць у яслях немаўля.*

*Ён першы дзень сустрэне светлы, новы —*
*Сюжэт падзеяў ведае зямля.*
*А недзе побач і вянок цярновы,*
*Якому ролі тут пакуль няма.*

*У трыццаць тры вянок упору будзе,*
*Шлях да Галгофы бачаць усе людзі —*
*Укрыжавання побач грамабой.*

*Ва ўсім трывае значная адметнасць,*
*Дзе сэнсам ёсць якраз амбівалентнасць:*
*Вянок цярновы — німб над галавой.*

### Напамінак

*Было няпраўда тое, і даўно —*
*Бязбожнік скажа, не міргнуўшы вокам.*
*І ад нявер'я стане не відно,*
*Зямлю пакрые няпраглядным змрокам.*

*Святла праявы — сведчанні адно,*
*Каб зразумець — не трэба быць прарокам.*
*І хоць цямрэча цягне нас на дно,*
*Ты бачыш іх сваім нямоглым зрокам.*

*Аскепкі фрэскі даўняй — напамін*
*Пакут, якіх дастане Божы сын —*
*Ён быў укрыжаваны і ўваскрос.*

*Аб Запавета Новага нязводдзі*
*Праз смутак-радасць, праз усе стагоддзі*
*З крыжа любові сведчыць нам Хрыстос.*

*Прымірэнне*

*Аліва дорыць кожнаму галінку,*
*Як напамінак пра любоў і мір.*
*Ад горніх цнот зляцеўшую пярынку —*
*Яе не здолее закрутны вір.*

*Трымаеш рупна светлую часцінку,*
*Патрапіць каб на прымірэння пір.*
*Нясе нам голуб вестку без спачынку,*
*Гасподзь што ачышчэннем акрапіў.*

*З аліўкавым алеем зробяць міра,*
*Памазанне — і ты ляціш у вырай,*
*Калі таемства глыбіню спазнаць.*

*На тое і даецца дабрадаць,*
*Каб чысціні трымацца першароднай, —*
*Нязводныя шляхі любві Гасподняй.*

### Прадвесце

*Святыя дзеі ў памяці крані —*
*Аб Дабравесці адгарні старонку.*
*Лілеі кветкі — сімвал чысціні,*
*Святую Дзеву так пазнаеш звонку.*

*Яе зямной юдолі збарані —*
*Сем стрэлаў рвуць на часткі абалонку.*
*Прарочых слоў спазнаеш карані —*
*Захоўвай рупна кніжную скарбонку.*

*Ён пры дзвярах — вось Запавет наш Новы,*
*І Багародзіца чытае словы,*
*Якія ў свет прыносяць адкрыццё.*

*Яго нам праз пакуты дачакацца —*
*Ёсць для душы напружаная праца,*
*Што дасць спатольна новае жыццё.*

### Вітанне

*Цудоўнай весткай прыляціць вітанне —*
*Чакае Збаўцу Іерусалім.*
*З надзеяй новага жыцця спатканне*
*Людзей, што прагнуць так сустрэчы з Ім.*

*Адразу тут пакутаў прадчуванне,*
*Крыжовых жарсцяў сцелецца кілім.*
*Ахвярнай долі ёсць наканаванне,*
*Але пакуль мы ў радасці стаім.*

*Адбітак горняга святла ў вачах,*
*Вярбы галінкі свечкамі ў руках —*
*На іх зіхцяць вітальна завушніцы.*

*"Асанна ў вышніх!" — мы Яму пяём,*
*Нядзелю Вербную ў душы нясём —*
*Евангельскіх падзей бруяць крыніцы.*

### Аб укрыжаванні

*Там, дзе Галгофа, згубіцца надзея,*
*Ад цёмных сіл паўстануць міражы.*
*Забіць у цела цвік — з нязгоршых дзея,*
*Каб спраўдзіць месца Збаўцы на крыжы.*

*Вялі́ тут зайздрасць рэй спакусы дзеля,*
*Падступна зла звінелі капяжы.*
*Але й спадзеў дала перашападзея —*
*Ты, чалавек, аб смерці не дрыжы.*

*Абмыюць воды струджаныя ногі,*
*Хрыста чакаюць горнія дарогі,*
*А нас — Ягоны запавет любіць.*

*Адкрыецца высокі сэнс збавення,*
*Гранат чырвоны — знак Уваскрасення,*
*Якому ўвек наканавана быць.*

### За добрай весткай

*Знаёмы вобраз уваччу заўсёды —*
*Ці то наяве гэта, ці ўва сне.*
*Праз непагадзь і зайдрасць, недароды*
*Жыццёвым морам карабель плыве.*

*Яго спыніць спрабуюць перашкоды,*
*Часінай шторм бязлітасна раве.*
*Ды потым зноў суцішаць ход свой воды,*
*Спатольна ўсё нанова ажыве.*

*Бароніць крыж яго на шляху гэтым,*
*Трымае прага зліцца з іншасветам,*
*Убачыць Новую Зямлю ў красе.*



«Адвечны хлеб»

*Святла дарога ляжа роўнай крэскай,*
*Калі трымаць свой курс за добрай весткай,*
*Якую птушка боская нясе.*

### Лавітва

*Паслухай казань тых далёкіх дзей,*
*Калі ўжо невад акунуты ў мора.*
*Наловіць рупна безліч ён людзей —*
*Трывае тут пакора й непакора.*

*Адзін жадае спраўджання надзей,*
*Пазбыцца хоча беспрасвету, гора.*
*І тут жа побач дзеіць ліхадзей —*
*Нявер'ю й цемры служыць ён сурова.*



«Вітанне»

*Нарэшце бераг новы і нязнаны,*
*Як Запавет жаданы і чаканы,*
*Але не ўсіх кране палёгкі стогн.*

*Неадваротна прыйдзе час дзялення —*
*Адны дастануць вышняга збавення,*
*А злыя будуць выкінуты вон.*

### Еўхарыстыя

*Душу няпроста павярнуць да неба —*
*Духоўнай працы высілкі аддай.*
*Прайсці пярэдадзень віна і хлеба —*
*Пасеяць, выспеліць, зняць ураджай.*

*Яднання дзея потым будзе трэба,*
*Вячэры з Госпадам сабе жадай.*
*Глытні жыцця спатолі з чашы срэбнай,*
*Праз дух таемства вечнасці сягай.*

*Цяпер мы брацці па крыві і плоці,*
*Ідзём святлом, да цемры ў незвароце,*
*Над намі неба ўвышыню расце.*

*І вінаградныя лазы галінкі,*
*Зярняткі коласа, юдоль слязінкі —*
*Мы людзі, што знаходзімся ў Хрысце.*

### Адвечны хлеб

*Спазнання рух прыводзіць да збавення,*
*Калі ёсць думкі вольнае прасцяг.*
*Мы ўсе ў Хрысце жадаем спатолення*
*Нязводнай прагі вечнага жыцця.*

*Яго здабудзеш толькі праз маленне*
*Душы, што лучыць промні адкрыцця.*
*Але штораз нас ставяць на калені,*
*Ваду замуцяць дзеля забыцця.*

*Ды ўжо ніхто жаданне не супыніць*
*Дапяць усё ж якраз да чыстай плыні,*
*Праз хлеб адвечны міласці дастаць.*

*Усе ўратуюцца, святла хто прагне,*
*Не зінікнуць тыя ў каламутнай багне,*
*Каму ўдалося чалавекам стаць.*

### Пітво невычэрпнае

*Наліты гронкі сокам жыццядайным —*
*Смакуй, святкуй, у любасці жыві.*
*Віно стварэ з яго стараннем дбайным,*
*Напой паўстане тоесным крыві.*

*Спазнай прычасця дзеяннем не тайным,*
*З грахом яднанне конча разарві.*
*Адпрэч спакусу высілкам ратайным*
*І дабрадаці смагу наталі.*

*Да вузкай брамы простая дарога,*
*Калі душой збалелай прагнеш Бога,*
*Глыбей спазнаць імкнешся Запавет.*

*Шляхі ад Госпада нявыведныя нашы,*
*Праменіць сонцам кроў Хрыстова*
*ў чашы —*
*Наканавана ёй спатоліць свет.*

### Не хлебам адзіным

*Спатоля працы — хлебам стане жыта,*
*Як зерне перамелеш на муку.*
*Да шчасця-радасці дарога ўжо адкрыта —*
*Спажытку цела падстаўляй руку.*

*Здаецца, горшае наўсцяж пазбыта,*
*Сябрынай мы ў адну ўвайшлі раку.*
*І часам тым пампоіцца, нібыта*
*Нічога больш не трэба на вяку.*

*Так, мы жывём усе адзіным брацтвам,*
*З'ядналіся евангельскім сваяцтвам —*
*Але ж углыб ты сэнс разварушы.*

*Тады мы толькі церму пераможам,*
*Калі жыць будзем словам з вуснаў Божых,*
*Якое ёсць спажыткам для душы.*

### Якар збавення

*Збавення якар ад зямной юдолі —*
*Прасветлы крыж, любові вышняй знак.*
*Укрыжаваннем Ён прынёс спатолю,*
*Наканаванне смерці знікла так.*

*Жалобных слёзаў годзе ўжо, даволі,*
*Цвікі не ўджаляць болей аніяк.*
*З Хрыстом усе мы вырвемся з няволі —*
*Жыцця адвечнага ўбірайма смак.*

*Чакае ўсіх адхланне навасвету,*
*Калі мы будзем жыць па Запавету,*
*Трымацца за выратавальны крыж.*

*Людскія душы, як любві спарыш,*
*Адпрэчаць цемру — свеціцца дарога,*
*Якая нас і прывядзе да Бога.*

### Скарб

*Жыве настала ў яснай галаве*
*Жаданне горнім наталіцца раем.*
*Гасподзь на тое Запавет дае,*
*У іншасвет дарогу адкрывае.*

*На сцежцы той пакінь сляды свае —*
*Не будзеш знацца з вусцішным адчаем.*
*Як птушачка па зернетку клюе,*
*Так мы рупліва мудрасць спасцігаем.*

*Усёй істотай міласці аддацца,*
*Удзячны плён руплівая дасць праца —*
*Адкрыеш скарб, і будзеш вечна жыць.*

*Дастанеш дзеямі дабраслаўлення,*
*Пазбудзешся зямнога прыцягнення —*
*І хрысціянская душа ўзляціць.*

### Час жніва

*Паспее плод — збіраць пара дароў,*
*Якія даў Гасподзь усім зычліва.*
*Пасланы серп, каб пульсавала кроў —*
*Стократ аддзячыць дабрадаццю ніва.*

*Але сумнеў згрызае змагароў —*
*Ніяк не можам мы зажыць шчасліва.*
*Жніва багата — мала жняяроў,*
*Для чалавекаў гэткі стан не дзіва.*

*Бо шмат пакліканых, абраных мала,*
*Хоць шанцаў светлых нам жыццё давала,*
*Але мы іх не скарысталі зноў.*

*І будуць першыя апошнімі наяве,*
*Апошнія ж узвысяць гарт у славе*
*З вянком жывым са спелых каласоў.*

*Ілюстрацыі*
*Марыны МАРОЗ*

# Слёзы на цэгле



Платон СТАНКЕВІЧ

***

Жнівень пакрысе падыходзіў да скону, а ўніверсітэцкае жыццё няўмольна набліжалася. За летні час я, здаецца, зрабіў усё, што планаваў. Аднак чамусьці мяне ніяк не пакідала адчуванне нейкае незавершанасці, нібы я ўпусціў штосьці важнае, што ўпускаць ні ў якім выпадку нельга. Выпуск са школы, падрыхтоўчыя курсы, паступленне — усё было... Але што?

Адказам на маё пытанне прагучаў тэлефонны выклік пад самы вечар:

— Вітаю!

Гэта быў Антон, мой аднакласнік, — цяпер ужо былы, — і сябра.

— Вітаю.

Ён тэлефанаваў рэдка і толькі тады, калі яму нешта было патрэбна, таму тон мой гучаў даволі нейтральна: я быў у прадчуванні чарговага «слухай, а ты можаш даць мне...». Аднак я пачуў нешта старое й вельмі роднае, але даўно забытае.

— Не хочаш заўтра ў вандроўку з'ездзіць?

— Вандроўку? — я па-сапраўднаму здзівіўся.

Апошні раз у вандроўку мы выбіраліся ажно пазалетась! Я ўжо нават паспеў забыць, як гэта: безупынна круціць педалі ровара на шашы, калі вакол цябе распасціраюцца на кіламетры зялёныя, жоўтыя, залатыя палі ды зялёна-чорныя лясы. Калі ты молішся ўсім багам, толькі б які павеў ветру правёў па тваім твары халаднаватым шоўкам, калі ты клянеш увесь свет, бачачы, які высокі пад'ём перад табою адкрыўся і калі цешышся як дзіця, летучы на ўсёй хуткасці з яго. Калі...

— Куды?

— Спачатку ў К. на электрычцы, потым адтуль па шашы да С., гэта каля трыццаці кіламетраў, затым налева да Ц...

А далей праз тэлефон на мяне пасыпалася такая вялікая колькасць слоў і назваў вёсак, што я ледзь паспеў выхапіць чыстую паперыну са стоса сшыткаў на стале, узяць асадку і пачаць запісваць.

— Пачакай... Яшчэ раз, як?

— Спачатку ў К. на электрычцы...

— Не-не, гэта я зразумеў, — перапыніў я, ужо робячы схему накшталт «*Б. — (элек.)—> К. — (ров.)—> С...*» — што пасля В.?

— У Ц. зробім прыпынак. Там возера й царква старая. Я фоткі глядзеў і скажу, што мясціны там вельмі прыгожыя. А царква, здаецца, шаснаццатага стагоддзя!

Па інтанацыі было зразумела, што на апошніх словах ён важна падняў указальны палец дагары.

— Добра, а далей?

— А далей ёсць два варыянты...

Хвіліна тлумачэнняў, і на паперы паўстаў неблагі маршрут: пяць асноўных пунктаў, два з якіх маюць цікавосткі: старыя храмы, адзін з якіх нават захаваўся і прымае вернікаў, і 100 кіламетраў роварамі.

— А якой сустрэнемся?

— Ад нас цягнік адыходзіць а палове дзявятай, так што... Ну, давай у восем дваццаць на вакзале.

— Добра.

— Вазьмі вады, калі ласка.

— Добра.

— Ну, — у голасе пачулася лёгкая прыкрасць: ён яўна не хацеў развітвацца, — да заўтра?..

— Так. Да заўтра.

— Давай.

Кароткія гудкі, выключаны тэлефон, душ, ручнік, зубная шчотка, разасланы ложак, развагі перад сном, і раптам прыйшло разуменне, што я напраўду павінен буду заўтра праехаць сто кіламетраў.

«Даўно я столькі не праязджаў... Ну нічога, праверым у дарозе, ці страціў я былую моц. А пакуль — спаць».

Рэдка атрымліваецца загадаць сабе заснуць і адразу гэты загад выканаць. Як толькі выключаецца святло, адразу прыходзяць у галаву розныя думкі (нібы цемры чакалі, каб незаўважна падкрасціся!), а галоўнае — непатрэбныя, якія ты жавацьмеш колькі гадзін, пакуль не раззлуешся сам на сябе, не падхопішся з ложка і не затупаеш на кухню, каб там бязмэтна сесці на зэдлік, утаропіцца ў сцяну і думаць: «Трэба ісці спаць». Вядома, трэба! Толькі як?

Але ў той вечар загад быў выкананы. Амаль адразу, як толькі я накрыўся коўдраю, хвалі сну захлынулі спачатку вушы, якія перасталі чуць, затым — вочы, павекі якіх пацяжэлі, і ўжо не было як іх расплюшыць, а затым — розум, які павольна пачаў апускацца ўсё глыбей і глыбей у бяздонную цемру. Галава пацяжэла, легла на мяккую падушку, якая стала яшчэ мякчэй, і я неўзабаве заснуў.

Цяпер зразумела, чаго не хапала!..

***

На вакзал я прыехаў роўна ў 8:20, хаця і забыў ваду, па якую давялося вяртацца. Вельмі не люблю спазняцца. Сорамна становіцца нават не перад чалавекам, які цябе чакае, а перад самім сабою.

Народу на станцыі было няшмат, і сярод іх я не высачыў Антона. Зусім не дзіўна: ён заўсёды прыязджаў усутыч запланаванаму часу. Нават калі гэты час сам і планаваў. Такі ўжо чалавек.

Я купіў квіткі, перайшоў цераз чыгуначныя шляхі, паставіў ля лаўкі ровар і ўсеўся чакаць сябра. Мінула хвіліна, дзве, ужо пяць, а яго ўсё не было. Можа, здарылася нешта? Патэлефанаваць трэба.

На выклік ён адказаў зусім не адразу — я ўжо збіраўся адключыцца, як усё-ткі пачуў «хутка буду» і затым кароткія гудкі. «Ну хутка дык хутка. Сам жа запрасіў. Спознішся, твае праблемы. Дый мае таксама...»

Я зірнуў на гадзіннік — роўна хвіліна да прыбыцця электрычкі. Цікава вось, чаму некаторыя людзі, я, напрыклад, спазняцца не тое, што не любяць — ненавідзяць, а для іншых жа спазненне з часам уваходзіць у нейкую норму? «А дзе такі-сякі?» — «Спазняецца». — «А, ну зразумела». Чаму гэта павінна быць зразумела? Калі ты прызначыў пэўны час, калі аб'явіў гэты час людзям, значыць, ты не хочаш, каб яны прыехалі пазней, дык і сам не спазняйся! І сапраўды, чаму так? Чаму людзі нават у гэтым розныя? Ад чаго гэта залежыць, наколькі глыбока трэба капаць? Усё з сям'і, асяроддзя, у якім чалавек выхоўваўся, ці што? Можа, псіхолагі ўжо далі адказ на гэтае пытанне? Трэ пачытаць...

Антон з'явіўся рэзка і не на жарт спалохаў мяне і людзей на пероне. Выляцеўшы з кустоў, што шчыльнай сцяной раслі за станцыяй, ён са скрыгатам тармазоў праехаў да самых пуцей і ледзь не зваліўся з перона на рэйкі, пакінуўшы тоўсты чорны след за сабою; пярэдняе кола, як Антон не тармазіў, рэек датыкнулася.

Здалёк прагучаў гудок — наша электрычка паказалася з-за павароту. Да яе прыбыцця засталося менш хвіліны.

— Ты мне квіткі набыў!? — крыкнуў Антон, таропка коцячы да мяне ровар.

— Не! — крыкнуў я ў адказ. — Грошай няма.

— Як так?!

Я паціснуў плячыма.

— Халера... — скрушна вылаяўся Антон. Ён зірнуў на паласатую галаву цягніка, што безупынна набліжалася, на станцыю, на рэйкі, зноў на цягнік — і пабег да касы.

— Стой!!

Ён жа не паспее! А калі і паспее, то не зможа ў вагон залезці, бо дзверы з іншага боку адчыняюцца!

Антон дабег да касы (дарэчы, невядома, навошта ён пацягнуў з сабою і ровар), дастаў з заплечніка гаманец і таропка дрыжачымі рукамі пачаў даставаць грошы, але, высунуўшыся з-за слупа, убачыў электрычку, якая вось-вось пад'едзе, і, напэўна, пачуўшы мае думкі, склаў усё назад, учапіўся ў стырно і перабег у самы апошні момант на мой бок.

Перад носам пранёсся цягнік, абдаўшы нас ветрам і пахам чыгункі, працягнуў усе вагоны і спыніўся апошнім перад намі.

— ...ладна, а што з квіткамі рабіць будзем?

У вагоне было малалюдна, вецер праз форткі задзьмуваў слаба, таму абодва мы казалі ціха, нахіліўшыся галовамі адзін да аднаго.

— Я скажу, — павольна, амаль не размыкаючы вуснаў, пачаў Антон, — што квіткі выкінуў з чэкам. Але спачатку, — ён дастаў з кішэні складзеныя паперкі, — дам вось што.

Ён іх разгарнуў, і аказалася, што гэта — таксама квіткі, але з процілеглым нашаму кірункам.

— І як гэта дапаможа?

— Сыграю дурня.

— Як?

— Калі ўвойдзе кантралёр, я, як нічога ніякага, дам вось гэта. Яна ці ён паглядзіць, скажа, маўляў, што вы мне далі; я зраблю здзіўленне, маўляў, ой, прабачце, зараз іншыя дам. Пачну ляпаць па кішэнях, а калі не знайду квіткі, пагляджу на іх вось такімі вачыма (Антон зірнуў на мяне, і, божа мой, я б паверыў яму!) і скажу, што, прабачце, выкінуў іх разам з чэкам.

— Мда-м, — усё, што змог адказаць я. — Ну, паглядзім, што будзе.

А далей было вось што: праз некалькі станцый у наш вагон зайшла жанчына ў блакітна-шэрай форме, прашпацыравала ад тамбура да тамбура хуткім крокам і некалькі разоў абыякава запыталася: «Білеты ва ўсіх ёсць?» Мы абодва з важным выглядам сказалі «та-а-ак, та-а-ак», а калі яна пайшла назад, паглядзелі адзін на аднаго і захіхікалі, як малыя дзеці. Потым адзін з нас задумаўся: «А можа, яна прадавала квіткі?», бо не можа кантралёр быць настолькі лянівым і ўпэўненым у чэснасці пасажыраў. Другі падумаў і адказаў, што такое магчыма, але што ўжо зробіш. Да патрэбнай станцыі заставалася, здаецца, пяць прыпынкаў, таму мы расслабіліся і ўжо думаць не думалі, што кантралёры ўвойдуць. Плюс упэўненасці нам дадавала тое, што электрычка — ранішняя і маршрут яе ляжыць праз мястэчкі і вёскі (на шляху ў яе было толькі два гарады: наш і канцавы). Вы, шаноўны чытач, напэўна, ужо здагадаліся, што кантралёры ў выніку зайшлі, — звычайны закон подласці, — і, ад чаго асабліва крыўдна, на прадапошняй станцыі.

— Білеты, пжалуста.

Мае паглядзелі першымі, пракампасціравалі, папрасілі Антонавы. Ён, з напускной вінаватасцю на твары, дастаў ілжэ-квіткі і акуратна перадаў жанчыне-кантралёру. Другі кантралёр, мужчына, пайшоў у іншы канец вакона. «Добра, што жанчына правярае, можа, паверыць у нашую нахабную хлусню. Мужык бы не цырымоніўся, адразу б выкінуў. Квіткі. І нас».

— Ну, думаю, — пачаў я, нібы працягваючы спыненую раней размову, — што лепей ручнікі ўзяць. Усё-ткі ў дарозе будзем доўга, таму ў якой рэчцы памыцца трэба будзе.

— Так, так, канешне, возьмем, — зразумеў маю задуму Антон, — і мыла таксама... Я ўвогуле думаю...

Кантралёрка тым часам асабліва не спяшалася выкрываць падман. Яна пільна разглядала квіткі, круціла ў руках, перагортвала то адзін, то другі, углядалася ў даты, пераварочвала дагары нагамі, і ўсё гэта — пакуль мы няўмела стараліся завесці размову ні з чаго. Толькі калі мы заціхлі, яна прамовіла:

— А куды вы едзеце?

— У К. — упэўнена схлусіў Антон.

— У вас білеты да Б.

«Ды ну?!»

— А-а-а, — Антон ляснуў сябе па ілбе і падняўся, — выбачаюся, не тыя даў, зараз...

Ён паляпаў сябе па кішэнях шортаў, па нагруднай кішэні кашулі, пасля секунднай паўзы, маўляў, нешта тут не так, больш шпарчэй — па задніх на шортах, залез у заплечнік, пачаў там сутаргава корпацца, і калі нічога не знайшоў, з вялікі вачыма, поўнымі здзіўлення і, здаецца, жаху, паглядзеў на кантралёрку.

— Няма...

Я вырашыў падыграць — павярнуўся на яго і таксама зрабіў велічэзныя вочы. Нават рот злёгку прыадкрыў.

— Як няма?

— Бо-о-ожа... — Антон сеў на месца, скрушна правёў рукой ад скроні да шчакі і ўтаропіўся некуды наперад. — Я, напэўна, — паглядзеў на мяне, затым — кантралёрку, — разам з чэкам іх выкінуў...

Самае цяжкае ў той момант было — не зарагатаць.

— Што случылася? — мужчына-кантралёр падышоў да нас, скончыўшы правяраць іншых пасажыраў.

— Ды вось, — жанчына кіўнула на нас, — у парня білета няма, гаворыць, выкінуў па ашыбке.

— І што цяпер рабіць будзем?.. — Антонаў голас пачаў дрыжэць. «Ну сапраўдны артыст!»

— Скольկі вам лет?

— Васямнаццаць...

— Сямнаццаць.

Усталявалася цяжкая цішыня — не ва ўсім вагоне, не, вагон па-ранейшаму шумеў чыгункаю і ветрам, але вакол нас. Рабілася страшна ад таго, што з Антонам могуць нешта зрабіць, і адначасова ад таго ж смешна, і ад таго — страшна, бо я ледзь стрымліваўся, каб не засмяяцца. А калі я засмяюся, уся нашая легенда абрынецца.

— Ла-а-адна, — лагодна працягнула кантралёрка, — што з вамі рабіць... Зараз вунь кандуктар падыдзе, у яе білеты купіце. Вам дакуда?

— Да наступнай...

— А-ай, — махнуў мужчына-кантралёр рукою, — хай едуць. Адкуда едзіце?

— З Б.

— Пф-ф-ф, не ўбудзе. Не з Мінску ж.

І тое праўда.

...Дзверы вагона зачыніліся, электрычка, набіраючы хуткасць, пацягнулася далей, а мы, два вандроўнікі-авантурысты, апынуліся ў першым пункце маршрута.

— Ну ўсё, годзе акторыць, — сказаў я, гледзячы на Антона, — А адкуль у цябе тыя квіткі ўзяліся?

Яго вочы хітра заблішчэлі.

— Сакрэт фірмы.

Ну сакрэт дык сакрэт. Ведаю, што калі нешта цікавае, сам раскажа.

— Ну што, куды?

— На поўнач.

***

Дарога не была цяжкаю: па чорным асфальце ехаць прыемна. Шаша ляжала праз лясы, перасякаючы іх наскрозь, уздоўж палёў, праз невялікія мястэчкі, і мы ехалі, ехалі, ехалі... Шыны густа гудзелі, вецер свістаў, задзьмуваў у вушы, птушкі, калі мы праязджалі праз лясы, прывітальна шчабяталі, і ўсе тыя гукі ўтваралі гармонію з наваколлем, якое змянялася з кожным кіламетрам.

Ідылія... Нічога звышнатуральнага па дарозе не адбылося, ніякіх аварый, здарэнняў, таму літаратурнай каштоўнасці апісанне дзвюх гадзін манатоннага кручэння педаляў зусім не мае. Скажу толькі адно: я думаю, не, я лічу, што кожны чалавек, хто мае нядрэннае здароўе (хаця б цэлыя рукі і ногі, ды сэрца ў дадатак) павінен хоць раз у жыцці, і няважна ў якім узросце, праехаць на ровары такой дарогаю. І менавіта роварам, нічым іншым. Ні машынай, ні скутарам — роварам. Бо з такімі вандроўкамі не трэба ніякіх псіхолагаў. Паверце мне. І праверце. Чэсна, душа па-дзіцячы цешыцца, і так прыемна ўнутры становіцца, калі бачыш якое сінюткае поле ці залатое альбо калі ўглядаешся ўглыб лесу, едучы праз яго, бачыш вілюжны ручаёк, што бяжыць між дрэў, і пачынаеш задумвацца аб усім, што бачыш... Можа, гэты ручаёк быў ракою калісьці, а тыя маладзенькія сасонкі вакол — нашчадкі магутных карабельных соснаў. Можа, было тут старажытнае паселішча крывічоў, а замест лесу было поле, у якім церамкамі стаялі іх хаткі. Праўда, кожны чалавек павінен адчуць, як гэта — жыць у дарозе. Можа, тады на свеце будзе менш бедаў?..

**Заканчэнне на стар. 7 »**

# Слёзы на цэгле

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6



Фота meridian28.com

***

— Антось, — кажу я, седзячы на ўзбочыне ў траве, — ты шчаслівы?

Ён адказвае не адразу: спачатку жуе залацістую саломінку, перакідваючы яе з кутка рота ў куток, затым яе дастае, аглядае, адгрызае пагрызены канец (даруйце таўталогію), зноў кладзе ў рот і толькі затым коратка адказвае:

— Т-ак.

Касавурыцца на мяне.

— А што?

— І я таксама, — выдыхнуўшы паветра, набранае носам, кажу я.

— Вось і добра.

Я адварочваюся і гляджу на дарогу, што засталася ззаду. Яна віецца чорным вужом, паветра над ёй дрыжыць, скажаючы прастору. Ветрык кранаецца маіх вачэй, і адразу з’яўляецца прыемная дрымота.

А чаму я шчаслівы? Нічога асаблівага ў маім жыцці не здарылася, я раптоўна не стаў мільянерам, я не ма́ю дзяўчыну-мадэль, я ўвогуле не маю дзяўчыны. Паводле некаторых «філосафаў», гэтыя два пункты — аснова для шчасця. Але чамусьці я цвёрда ўпэўнены, што я ў дадзены момант — шчаслівы. І без усяго пералічанага і іншых «інгрэдыентаў». І хай хоць нехта пачне даказваць мне, што я памыляюся, я іх нават слухаць не буду. Для каго прыдумалі тыя «формулы шчасця» і навошта, калі для кожнага шчасце саваё?..

— Ладна, — Антон устаў і ляпнуў мяне па плячы, — паехалі далей. Трошкі засталося.

Я падхапіўся. Ад дрымоты не засталося нічога.

— Паехалі.

***

...І вось, нарэшце, мы дапялі да галоўнага (прынамсі для мяне) пункта вандроўкі — невялічкай вёскі Ц., ахопленай з трох бакоў азёрамі і на ўзгорку якой стаіць «перамоганы, але не скораны» старажытны храм. Ён велічна, нібы руды карабель з высокай баштаю, узвышаўся над усёй вёскай, плыў між разгалістых дрэў, пакуль мы ехалі і глядзелі на яго здалёк.

Зблізу ён выглядае яшчэ больш магутна. Гэтыя тоўстыя, хоць і абваленыя зверху муры, валуны ў фундаменце, напамін аб званіцы — два сумежныя муры, што засталіся ад яе і дагэтуль, праз столькі вякоў, усё імкнуцца ў нябёсы, гэтая расколатая арка, што калісь была ўваходам у святыню і трымала тоўстыя дзверы — усё нагадвае пра колішнюю, страчаную веліч.

— Давай унутр зойдзем.

Мы прайшлі праз арку, таўшчыня сцен якой, як мне падалося, сягала пад метр, і аказаліся ў цаглянай каробцы. Толькі голыя чырвоныя сцены, у некаторых месцах на якіх яшчэ засталася тынкоўка, і тое — ліпела на адным валаску, толькі бітая, урослая ў пругкую зеленаватую глебу цэгла, куча старых дошак, і толькі сумны напамін, што тут нешта калісьці было, што ў гэтыя развалiны прыходзілі людзі, лічылі іх святым месцам, маліліся тут...

— Сумна выглядае...

Антон прайшоў у цэнтр і скрушна, нібы пакутнік які, упаў на калені і павесіў галаву. Валасы, старанна зачасаныя назад, перакрылі твар.

Шчыра кажучы, я не асабліва любіў, калі ён пачынаў так рабіць — разводзіць непатрэбную тэатральшчыну. Што ты тут, маўляў, драму ламаеш, прыехаў на развалiны, дык будзь ласкавы — хадзі па іх, даследуй, а не на каленях стой!

Але цяпер чамусьці я не адчуваў, што яго дзеянні і поза — ненатуральныя. Наадварот, у гэтых развалінах яго постаць выглядала надзвычай арганічна, нібы тут ёй самае месца.

Я трошкі пастаяў, паглядзеў на сябра, усё думаючы, якую мэту ён пераследуе, робячы гэтак, і прадоўжыў асцярожна хадзіць па бітай цэгле і чорнай, стаптанай тысячамі ног зямлі.

А далей (і прашу паверыць мне, бо апісанае далей я бачыў увачавідкі!) адбылося сапраўднае дзіва. Рэшткі муроў, тыя тоўстыя сцены, ад якіх не засталося і трох метраў, якія даўно страцілі свой першапачатковы выгляд, пачалі расці ў вышыню...

«Чаго?.. — я збянтэжыўся і адхінуўся бліжэй да цэнтра. — Быць такога не можа! Мне мярэсціцца!.. Яй-богу, галаву напякло!»

Але як не цурайся ўбачанага, цаглінка за цаглінкаю яны ўзняліся да блакітнага неба, абраслі даўно абпалай, пазелянелай тынкоўкаю, якая зноў стала жамчужна-белаю; з двух пагоркаў каля мяне праз глебу разам за мурамі прараслі і калюмны, таўшчэзныя, магутныя. Я глядзеў на міфічнае адраджэнне даўніны лупатымі вачыма і не мог уцяміць, як такое магчыма; Антон жа, здаецца, нават і не заўважыў змен навокал.

І вось ужо муры выраслі на дзясятак метраў, узялі неба ў прамакутнік і пачалі перакрываць яго скляпеннямі, якія «цаглінка за цаглінкаю» разрасталіся ад калюмнаў. Некалькі секунд — і блакіт над намі знік. У храме запанавала паўцемра, і толькі святло з вузкіх вокнаў прарэзала яе промнямі. Яно спадала да самай падлогі, якая больш не была толькі глебай уперамешку з бітай цэглай; мы стаялі на бела-чорнай мазаіцы.

Але на гэтым цуды не скончыліся.

У храме з’явілася старое ўбранне: на белых мурах — абразы, якія літаральна з’яўляліся з паветра; на калюмнах — бронзавыя падсвечнікі; у метры перад Антонам — алтар. Ён паўстаў са струхлелых, загрышпаленых дошак, якія ляжалі ў кучы і так гучна трашчалі раней, калі на іх наступіць; цяпер жа яны выглядалі, нібы сталяр толькі скончыў над імі працу і пакрыў лакам.

Я моцна ўдыхнуў носам і адчуў, што паветра тут не цяжкае, як гэта звычайна бывае ў цэрквах. Я прагна ўдыхнуў яго яшчэ раз і яшчэ — дыхалася лёгка, свабодна. Грудзі напаўняліся прыемным халадком, якога так не хапала ўвесь шлях.

А цішыня... Ніводнага гуку ў белых сценах храма. Ніводнага.

— Антон... — гледзячы на столь, а дакладней — на пазалочаны ланцужок, які адтуль спускаўся, звярнуўся я да сябра, — Антон, гэта... гэта цуд.

«Цут-цут-цу-цу...» — паўтарыла за мною водгулле.

Над галавой з ланцужка вырасла жырандоля.

— Антон...

Антон не адказваў.

Я быў надта зачараваны харастве м, якое так нечакана паўстала вакол, што не адразу звярнуў увагу на нейкі дзіўны гук. Ён быў ціхі-ціхі, але рэха пад скляпеннямі ўзмацняла яго. Я спалохана зірнуў на Антона і зразумеў, што не памыліўся ў сумнай здагадцы. Яго цела злёгку дрыжала. Ён... плакаў.

— Ты чаго?..

І тут, гучна бразнуўшы ланцугом, абрынулася жырандоля, але, не даляцеўшы да мяне, знікла ў прасторы. А за ёй пасыпалася тынкоўка, пасыпалася не толькі зверху, але і з усіх сцен, якія пакрысе пачалі так жа знікаць, як і з’явіліся.

Антон заплакаў так, што ўжо рэха было не патрэбна, каб пачуць яго працяжныя ўсхліпы, якія ўсё больш і больш набіралі моцы, і ўжо гучалі не жаласліва, а вусцішна.

— Антон, ты чаго?..

Сэрца сціснулася ад яго завыванняў і таго, што ён нічога не адказвае. Я не мог зразумець, чаму ён раптам заплакаў. Мне падумалася страшнае.

— Нехта... памёр?

А храм тым часам рассыпа́ўся па вачах. Алтар яшчэ быў цэлы, але на яго верхняй частцы ўжо аблупіўся лак, дрэва пашарэла і пакрылася сеткай расколін.

Антон не адказваў.

«Не, калі б нехта памёр, ён бы сказаў яшчэ ў дарозе. Пра такое яму цяжка маўчаць. Тады што?.. Ух, халера!»

Я ледзь ухіліўся ад цагліны, якая ўпала зверху з калюмны.

— Антон!

Сцены ўсё больш асыпаліся, уздымаючы густы чырвоны пыл. Я згубіў яго сілуэт.

— Антон!!

І тут, нібы маланка, у галаве прамільгнула думка — адказ на маё пытанне, і адразу ўсё стала на свае месцы:

«Памёр не нехта...»

Алтар цалкам абрынуўся, ператварыўшыся ў кучу збуцвелых дошак. Пыл асеў, і я зноў убачыў Антона. Ён, як і раней, стаяў на каленях сярод развалін.

«...памерла *нешта*».

***

Нейкія пяцьдзясят кіламетраў пясчанай дарогаю, тры гадзіны пад бязлітасным да ўсяго жывога сонцам, потым паўгадзінкі на вакзале, — і мы ўжо імчым на электрычцы дадому. Ровары моцна прышпілены, ды так, каб не паваліліся, калі іх добра штурхане які дужы лоб, заплечнікі ляжаць на жалезнай палічцы над вакном, а мы — расцякліся на аббітых скурзамам лаўках.

— Як ты? — пытаюся я.

— Ды нармальна. — адказвае ён. — А ты?

— А я... стаміўся трошкі.

— Зразумелая справа — так даўно і так далёка не ездзіў!

У яго вачах па-ранейшаму гарэў той шалёны агеньчык авантурыста, і было бачна, што гаснуць ён не збіраецца.

Пасля невялікай паўзы ён выразна сказаў:

— Мне спадабалася.

Я не мог з ім не пагадзіцца.

— Мне таксама.

Праз некалькі прычын. Па-першае, як аказалася, гэта было патрэбна мне фізічна. І хоць мае ногі моцна гудзелі пасля гэткага «лёгкага шасцігадзіннага кардыё», я адпачыў целам. А таксама я разумеў, наколькі прыемным, наколькі жаданым будзе душ, калі я дабяруся да дома. У звычайны, безвандроўны час ты ўспрымаеш яго як нешта належнае — схадзіў, памыўся і ўсё; але цяпер струмяні, што пад напорам б’юцца аб тваю скуру, бачыліся ва ўяве мне цудам тэхнікі, сапраўдным выратаваннем. Усё-ткі (гэтую дэталь я вырашыў спачатку апусціць) мы былі страшэнна ліпкія ад поту, таму душ па вяртанні быў нам «прапісаны».

Па-другое, я адпачыў духам. Правятрыў галаву пасля ўсіх экзаменаў, нерваў, перажыванняў. Вымыў іх апошнія калівы адтуль павевамі свежага паветра, якога так мне не хапала ўсё лета. А таксама — храм... Што гэта было, я так і не магу зразумець: ці сапраўдны цуд, ці ўсё гэта мне прымроілася. Але паводзіны Антона... Няўжо ён плакаў з-за *гэтага*? Сапраўды, не праз нешта іншае? Здаецца, стрыманы хлопец, а так разрумзаўся. Трэба запытацца.

— Анто...

Я павярнуўся да яго. Антон спаў.

— ...н.

Яго твар ільсніўся ад поту. Зрэшты, гэта была адзіная дэталь, якая выдавала, колькі мы сёння праехалі. А так ён выглядаў як звычайна: тыя ж чорныя бровы, той жа злёгку кірпаты нос, тыя ж вусны, якія забаўна сабраліся ў банцік. Яны заўсёды збіраюцца ў банцік, калі ён спіць. Цікава, ці ведае ён пра гэта?

У любым выпадку, на маё пытанне ён пакуль не адкажа.

У разгляданні сябра я не бачыў ніякага інтарэсу, таму адвёў позірк у вакно. Нічога новага там не было: тыя ж дрэвы, што растуць уздоўж усіх чыгунак, тыя ж палі, якіх поўна ў кожнай вобласці, тыя ж хаты... Але ж было ў гэтым нешта. Нешта паўсюднае, нешта спакойнае, нешта медытатыўнае, нешта...

Нешта...

***

«Мы чакаем нейкіх перамен, але ў сваіх дзеяннях насамрэч глыбока памыляемся. Бо іх не варта чакаць.

Іх варта рабіць.

І я веру, што памерлае *нешта* адродзіцца. Не як птушка-фенікс — само па сабе, бо рэчаіснасць — гэта не міф, дзе такое магчыма, а як нараджаюцца людзі — праз вялікія высілкі маці ды з пранізлівым крыкам дзіцяці. Крыкам, які будзе азначаць адно: дзіця жыве і збіраецца змагацца за гэтае права.

А каб у дзіцяці былі сілы, яно мусіць быць ахутана любоўю, якую ніщто не зламае, не спляжыць, не пераб’е — ні гнеўныя позіркі чужынцаў, ні зайздросныя позіркі сваіх.

І тое, што дзіцяці — нашае, яшчэ не азначае, што ім варта ганарыцца так, каб заслона пыхі накрыла вочы; канешне, дзіцём, каб яно вырасла паўнацэнна здаровым, ганарыцца трэба, але не з прычыны “нашасці”. Бо дзе пачынаецца “нашасць”, там заканчаецца прага апякаць...»

Станцыя змянялася станцыяй, вёска вёскаю, у вакне-экране плылі палі і лясы, а неба над імі пакрысе ружавела.

«Мы ўсе шукаем сэнс жыцця. Для кагосьці сэнс у фізічным і духоўным самаўдасканаленні, для кагосьці ж наадварот — у самаразбурэнні. Ёсць і тыя, хто кажа, што не шукаюць сэнсу і шукаць не збіраюцца; і нельга сказаць, што яны памыляюцца. Бо яны ўжо яго знайшлі: іх сэнс у тым, каб яго не шукаць. Увогуле, ніхто не памыляецца.

Але ж мне цяжка пагадзіцца з апошняй пазіцыяй. Цяжка пагадзіцца *цяпер*, бо да нядаўняга часу, да сённяшняга дня я належаў менавіта да тых, каму абыякава, ёсць ён ці не. «Жыву, і тое добра». «Хай іншыя шукаюць, мне нашто?» Можа, так бы да канца жыцця й было. Калі б не сённяшні дзень. Калі б не слёзы сябра.

Дык да чаго гэта я?..»

«Станцыя “Б.” Выхад на правы бок».

«Халера, ужо нашая!»

Я штурхнуў Антона ў плячо, і ён умомант схамянуўся.

— Антон, нашая ўжо!

— А? Шо?

— Нашая!

Мы падхапіліся з месцаў і таропка пачалі адшпільваць ровары.

— Нічога не забыў?

— Здаецца, не. — Антон паляпаў сябе па кішэнях, зірнуў у заплечнік. — Не.

Паўхвіліны — і мы ўжо стаялі на пероне вакзала, з якога звычайна пачыналіся ўсе нашыя вандроўкі. З якога пачалася і сённяшняя. Толькі цяпер, у адрозненне ад раніцы, сонца вісела не белым дыскам на ўсходзе, а канала ў чырвані на захадзе. У тую ж чырвань пацягнулася і нашая электрычка; грук колаў усё больш аддаляўся, і неўзабаве яе сіні хвост знік за паваротам. Нарэшце родныя мясціны!

Дадому мы ехалі разам, бо абодва жылі, можна сказаць, каля адной дарогі. Антону было бліжэй, таму, па-сяброўску развітаўшыся, ён пакінуў мяне, а я пакалясіў далей адзін.

«Дык пра што гэта я? Нейкую думку добрую ў цягніку пачаў. Успомніць бы цяпер...

Пэўна, нешта пра вандроўку. Так, добра з’ездзілі. Цікава атрымалася.

Да дома прыблізна яшчэ пяць, шэсць хвілін. Пяць. Нават чатыры.

Зараз памыюся, памяняю пасцельную бялізну, — чыстым толькі ў чысты ложак, ды лягу спаць.

Ужо тры.

Пэўна, мама яшчэ не спіць. Раскажу ёй, што і як было. Ёй будзе цікава паслухаць.

Дзве.

Хех, яшчэ жанчыны гэтыя з чаям і кофай... (у адной з вёсак п’яныя жанчыны запрашалі нас у госці).

Адна.

Абавязкова з’езджу туды яшчэ!..

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 12 (220), снежань 2024 года

# Па знаку вольнасці



Алена ІГНАЦЮК

### Закалыханне

І тут і там гудзе прастор.
Я тут — па знаку
маёй вольнасці.
А там — у адваротнай
першароднасці...
Адзін, і два, і тры —
паўтор...
Там неба закалыхвае зямлю:
на гарызонце —
тыгр, кастрычка і шаман —
на лініі адной,
бы сталі на арэлі.
Я ж тут —
вялікі сэнс ў сабе лаўлю,
бы ў крапінах
цякучай акварэлі.
Тут птушкі нотамі
ляглі на правады...
Ў расколінах ільдоў
далее цішыня.
Ляднік спыніўся...
І пайшлі гады,
дзе вырасла татэмам тыграня...
Нясуць яму ахвяру хадакі
(з жыцця майго —
рупліцаў цені).
Там —
за гарой, за хвалямі ракі —
абрысы раю сонцам заірдзелі.
І я —
па знаку вольнасці маёй...
Пайду на гарызонт...
І стану на арэлі,
дзе тыгр,
кастрычка,
і шаман з мятлой...
Закалыхае неба мае веі.

### Мне дайце, дайце колер бірузовы!

Навошта мне экзотыка зямлі?
Мне дайце,
дайце колер бірузовы!
Я думаю — аблокі, каб маглі
мне з неба сёмага данесці,
без назовы,
адно вялікае жывое пачуццё,
нібыта ў бірузе
маё адлюстраванне...
Тады б магла сваё
пражыць жыццё,
як з табара нябеснага цыгане.
Да межаў не прывязанай была...
І ў сцежку агарнула б
свае ногі...
Ці ўчула?
Вырастае ўзмах крыла
на мне —
як бірузовыя аблокі.
І абмінула шэрасць
сумных хмар...
Мне дайце,
дайце колер бірузовы!



Фота artbelarus.by

Як пойдзе дождж,
то прынясе мне ў дар
з-пад неба кветкі —
без назовы?
Ірвецца тонка-бірузовы квет.
Перад дажджом
я стану на калені.
І неба мой адродзіць сілуэт...
Ды шэры колер —
як хваробы-цені.

### Вандроўка

Турцыя, Грэцыя,
Данія, Швецыя —
Я...
Мы — за тры моры.
І з намі Венецыя...
Чуем палескі распеў салаўя!
Міфы пражытыя —
можна ў дзівоснае:
Турцыя, Грэцыя,
Данія, Швецыя —
Я!
Мы — за тры сонцы,
паспелі за вёснамі,
з воску будуем замак...
Здаля
бачыцца
вежа
капронавай
лесвіцай:
Турцыя, Грэцыя,
Данія, Швецыя —
Я...
Пойдзем па ёй —
нашы мовы пакрэсляцца
неба палосамі
ў звон ручая.

### І я цяпер... даходжу да Ружан

Тут Ганна мела шлюб з Сангушкам...
І Аляксандру ведаць ўжо пара,
што дзеці выраслі...
Як паляцелі птушкі
ад доміка садоўніка... З вакна
даносіцца іржанне смелых коней.
Прыехаў, пэўна, лоўчы караля.
І ў пушчы паляванне будзе...
Роля
у гетмана ружанскага своя:
наладзіць пір за гротам,
на раздоллі,
каб славіць род Сапегаў
нездаля —
маглі святыя,
грэшнікі,
героі...

*

Палац барочны ўзняўся ўраз —
нібы пячатка Льва Сапегі...
сургучна ўмацавала час,
а з ім —
сарматаў на Масковію набегі.
І я цяпер... даходжу да Ружан.
Мне мроіцца палац
і малады Францішак:
згубіў ён малітоўнік базыльян,
жыве ў палоне
эратычных кніжак.
І дзверы шафы
упрыгожыў барэльеф:
драўляны антыфікс,
а ці сатыр смяшлівы...
І чуецца яго пісклівы смех —
бы гэта летапісец піша...
успаміны.
Касцёла неф
барочна расквітнеў,
анёлы з ружамі над купалам,
як дзеці.
Калісь у Казіміра
канцлер Леў
прасіў за волю,
што губляў па свеце...

### Мармеладавае неба

Прадчуваю ў небе свята...
Хоць жыву я не багата
(адзін двор і адна хата),
назіраць пайду за садам —
маё неба з мармеладам.

Нізка-нізка аблачына —
прывідовая дзяўчына.
Візіторка? З запрашэннем?
Маім думкам узвышэнне!
Сон-вясёлкі нараджэнне!

Яе век — як тры хвіліны.
Буду славіць нарадзіны
дачкі вільгаці, ці сферы...
Павятуха-хмарка — ў веры,
што я стану хроснай маці...
Бачу неба ў мармеладзе!?

### Узор майго натхнення

Птушак танец рытуальны —
ромбы, крыжыкі, квадраты...
Я згубіла гул вакзальны —
і знайшла свой дзень крылаты.
Думкі лесам...То пралескам...
І праз поле — на прастор.
Горад дзесь застыў бурлескам...
Птушкі вершаць свой узор.
Бачу ромбікі і рысы —
сее-сеецца дзень-шлях.
Пэўным талентам актрысы
паўтару крылаты ўзмах?
І ў арнаменце адвечным:
нібы ў трэцім дні тварэння —
птушкі блудзяць
шляхам млечным...
Такі ўзор майго натхнення!
Замкі свецяцца Валыні...
Расцілае посціл ціша:
сінім вокам берагіні
маё спыніцца узвышша.

### У Качановічах

Прыпяць разгорнута
вострымі шлюзамі —
бы рукавамі магічнай вады.
Пенна-малочнай...
І жабы мне — музамі —
там, у стаўку,
каля першай грады...
Дзе Качановічы
бэзава кружацца
ў танцы шляхетным...
У кожным двары
травы высокія
сцелюцца-вужацца...
Богу якому прыносяць дары —
людзі палескія,
людзі балотныя...
Ловяць-спыняюць
вудою той час,
дзе не губляюцца
пчолы калодныя...
Дзікага мёду з вякоў —
прызапас!
І саламяняцца хаты —
пагонныя...
І каранююць іх гнёзды буслоў...
Людзі на сцежках,
як згублены, —
сонныя...
І размаўляюць
са мною без слоў.
Я абыходжу вуглы Качановічаў
і разглядаю музейны пейзаж.
Ды аканіцы, падковы —
знаходзячы,
не пакідаю двор шляхціца...
Аж,
бронзавым зліткам
той заахвочаны,
нібы якім медалём —
за сукно:
нехта са Скірмунтаў



Фота livejournal.com

узнагароджаны
быў на выставе ў Парыжы...
Даўно!

### Дзіўныя людзі

Дзіўныя людзі. Час іх у блудзе.
Чашу на трызне ім выпіць да дна...
Вэлюм магічны
(ці ў мяце, ці ў руце)
кіне на сцежку да продкаў вясна...
Следам за ветрам яны галасілі.
Брудныя твары абмыты слязой.
Неслі ахвяру і ў продкаў прасілі
чыстага веку з нябеснай душой.

### Са мною Ляхі

Рака ніткай Арыядны
з лабірынта цягне час.
Бераг выцягнуты, ладны...
Дзень — што міфа пераказ.
Бы птушыныя галовы
ў жыхароў маіх мясцін:
сойм барочны ладзяць совы —
горнуць цела ў крэалін...
Рака ніткай Арыядны
з небам злучана здаля...
У мяне квіток мандатны:
выбіраюць караля —
людзі-совы... Можа, нагі?
Хто з іх дэман?
Кожны — Бог!?
Я ж крычу:
«Са мною Ляхі
правяць баль
пад скокі блох!».

### Маскарад (абразкі)

Чайка дзюбай
чэрціць рыску
на вадзе.
Карнавал пачне...
Да піску
сваю радасць давядзе.
Вось прайшлі па набярэжнай
фаварыткі ў парыках.
Яны ў радасці пацешнай —
іх кароль жыве ў вяках.
Маскарад...
Мой твар гатычны,
нібы ў мемлінгавай Евы...
Супраць ветру страх панічны
пачынае свае спевы.
Карнавальна доўжаць шэсце —
маўчуны:
у зялёных акулярах,
пудра тлустая на тварах
і пячатка на фулярах...
Вельмі важныя чыны?
Хтось адчуў сябе Кентаўрам
(як Лапіф сп'янелы з міфа,
што прыліп да крэсла)...
Хмарна!?
Дождж кранецца складак ліфа —
Геры — з тварам чалавека...
Дзесь ляціць страла Эрота
да вады — шукае Рэха...
Маскарад...
Ідзе галота...
Чайка дзюбу падымае
да нябёс.
Я прастору азіраю...
Сена воз...
Хтось пакінуў на дарозе.
Цень касца...
Толькі позірк мой ў знямозе.
Маскі...
Маскі...
Без канца...

# Галубіная пошта

Уладзімір ЯГОЎДЗІК

У верасні 1972 года нашаму выпускному класу Зэльвенскай школы-інтэрната родную мову і літаратуру пачаў выкладаць Аляксандр Міхайлавіч Голуб. У яго высокай сутулай постаці сапраўды было штосьці птушынае, жураўлінае. На першым уроку ён спытаў, хто можа расказаць верш. Я падняў руку, прадэкламаваў «Слуцкія ткачыхі» і атрымаў пяцёрку, а на перапынку пацікавіўся, дзе можна прачытаць творы Ларысы Геніюш.

— У мяне ёсць яе кніга, — адказаў настаўнік і спытаў: — Можа, ты сам займаешся вершаскладаннем?

— Займаюся, нават друкаваўся ў раённай газеце, — прызнаўся я.

А потым пачуў, што зусім не чакаў:

— Мая хата недалёка ад інтэрната, адразу за чыгуначнай станцыяй. Прыдзі да мяне ў нядзелю.

Вёска Бародзічы, дзе жыў Аляксандр Міхайлавіч, побач з Зэльвай. Яго жонка, Вера Аляксееўна, працавала выхавацелькай у пачатковых класах, іх сын і мой равеснік Саша вучыўся ў Зэльвенскай сярэдняй школе.

У нядзелю, адразу пасля снядання, я накіраваўся ў Бародзічы. Насупраць хаты Голубаў, як вартавыя, стаялі два каштаны, размаляваныя восеньскай пазалотай. Пад вокнамі раслі астры самых розных колераў і адценняў.

Аляксандр Міхайлавіч сустрэў мяне на ганку, прывёў у пакой з кніжнымі шафамі. На часопісным століку ляжала невялікая кніжка з прыгожай вокладкай, аздобленай кветкамі і птушкамі, што трапляюцца на дамотканых посцілках.

— У мяне быў зборнік «Ад родных ніў», выдадзены ў Празе, але Ларыса Антонаўна папрасіла аддаць у Гудзевіцкі музей, — сказаў гаспадар. — Калі захочаш, пакорпайся ў шафах, можа, штосьці цябе зацікавіць...

Канечне, я прыліп да паліцаў, дзе стаялі зборы твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, Чэхава, Буніна, Паўстоўскага, старыя выданні на польскай і нямецкай мовах.

Потым Вера Аляксееўна запрасіла нас на абед. Яна зварыла боршч, натушыла бульбы з грыбамі, а за сталом расказвала:

— Я падбегам лячу, ажно дрыжу, як знайду баравіка. А ён, — кіўнула на гаспадара, — цягаецца, пакуль не зачэпіцца нагой за лісічку...

У той вечар я прынёс у інтэрнат піражкі з капустай, альбом для малявання (Аляксандр Міхайлавіч папрасіў перапісаць мае вершы) і кнігу «Невадам з Нёмана». Прачытаўшы некалькі вершаў, я адразу трапіў у гэты чароўны нёманскі невад.

*Калі вецер зашапоча лісцем,*
*раскалыша неўгамонны лес, —*
*памяць валачэ мяне*
*ў дзяцінства,*
*ў дзедаў кут, у гудзевіцкі бэз.*

*Цвіў той бэз, як цуд,*
*па ўсіх дарогах,*
*апускаўся на амшэлы брук,*
*воблакам суквеццяў ля парогаў*
*нахіляўся да дзіцячых рук.*



Аляксандр Міхайлавіч ГОЛУБ

Калі выпадала, я спяшаўся з казённых інтэрнатаўскіх сцен ва ўтульны пакой з кніжнымі шафамі. Прачытаў там раман Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», аповесць Васіля Быкава «Мёртвым не баліць». Аляксандр Міхайлавіч сачыў за навінкамі сучаснай літаратуры. Пазней у адным з лістоў (31. 01. 1979 г.) ён пісаў:

«Шчыра дзякую за дасланы мележаўскі раман “Завеі, снежань”. Трэба сказаць, крыху расчараваўся, вельмі асцярожны і высокаідэйны Башлыкоў. Але не здзіўляюся: быў такі час, я сам яго адчуў і пражыў. Нядаўна прачытаў “Вазьму твой боль” Шамякіна. Не спадабалася, думаю, табе таксама. Іван пнецца ў псіхолагі, спрабуе параўнацца з Дастаеўскім. Ах, Божа мой...»

Часам я заставаўся нанач, слухаў яго ўспаміны, сёе-тое нават занатаваў у сшытак.

«Мой бацька служыў на чыгунцы, меў добры заробак, таму паслаў мяне вучыцца ў Віленскую рускую гімназію. На вуліцы, дзе я кватараваў, працавала фотастудыя, а ў акне была вітрына з прыгожымі здымкамі. Асабліва мне спадабаўся юнак у вясковай кашулі-вышыванцы. Пасля я ўбачыў той партрэт у часопісе побач з вершамі Максіма Танка. Аказалася, ён таксама нядоўга займаўся ў рускай гімназіі...»;

«Падчас акупацыі, каб вучыць дзяцей, патрэбны быў дазвол школьнай управы. Атрымаць дакумент мне дапамог Хведар Ільяшэвіч, рэдактар беластоцкай газеты “Новая дарога”. Гэта быў добры, шчыры чалавек. На развітанне папярэдзіў мяне: ты бачыш, куды пакаціўся фронт? глядзі, пасля можаш паплаціцца. Ён не памыліўся, быццам у ваду глядзеў...»;

«Вясной 1943 года ў бацькоў свайго мужа, Івана Пятровіча, гасцявала Ларыса Геніюш. Ад кагосьці яна пачула, што я вучу дзяцей на роднай мове, і запрасіла мяне на канцэрт беластоцкіх артыстаў, якія разам з ёй прыехалі ў Зэльву. Назаўтра яны ўдваіх з Хведарам Ільяшэвічам прыйшлі ў Бародзічы, пабылі на ўроках, прачыталі дзецям свае вершы...»

У чэрвені 1984 года ў рэдакцыю «ЛіМа» зазірнуў былы выхаванец Бародзіцкай школы, кандыдат філасофскіх навук Міхаіл Іосько. Сярэдняга росту, з прычоскай «пад вожык», на носе — вялікія акуляры.

— Вам пісьмо з галубінай пошты, — пажартаваў ён і падаў мне канверт, падпісаны знаёмым почыркам.

Памятаю, Аляксандр Міхайлавіч захапляўся Іоськавай дысертацыяй «К. Маркс, Ф. Энгельс і рэвалюцыйная Беларусь», на што я скептычна зморшчыўся, бо не давяраў падобным трактатам.

— Дарэмна ты скрывіўся, — паўшчуваў мяне настаўнік, — Карл Маркс ведаў пра Беларусь усё, пачынаючы з гісторыі, эканомікі, культуры, нават нацыянальны склад насельніцтва. Беларусаў 5 мільёнаў, зрабіў ён выпіску з рускага «Военна-статыстычнага зборніка», яны жывуць у Магілёўскай, Мінскай, Віцебскай, Валынскай, Падольскай, Смаленскай, Арлоўскай і ў невялікай колькасці ў Херсонскай і Пензенскай...

Пагаманіўшы ў рэдакцыі, мы прыселі на лаўку непадалёк ад набярэжнай Свіслачы. Я прыгадаў «Военна-статыстычны зборнік». Міхаіл Іванавіч сказаў, што падрыхтаваў ужо другое выданне дысертацыі, але папсаваў шмат крыві, пакуль зняў заўвагі рэцэнзентаў.

— У высокіх кабінетах замоўчваюць выказванні класікаў пра самавызначэнне народаў, а яны, адзначаючы блізкасць беларускай, украінскай і рускай моваў, звярталі ўвагу на іхнюю адметнасць і самастойнасць, — ён дастаў з партфеля тоўстую папку. — Пабачце, якая цагліна... Гэта мае ўспаміны. Мо падкажаце, каму прапанаваць для публікацыі...

Я параіў занесці ў рэдакцыю «Нёмана». Ён адмоўна кіўнуў галавой, маўляў, туды не прабіцца, а затым папрасіў зірнуць на тэкст свежым рэдактарскім вокам.

Вечарам, не адкладваючы, я ўзяўся чытаць машынапіс. Найбольш цікавымі мне падаліся старонкі пра вясковае жыццё пад уладай Польшчы і ў гады ваеннага ліхалецця. Асобны раздзел быў прысвечаны настаўніку Голубу. У кожным абзацы — шчырая ўдзячнасць, якая або жыве ў сэрцы, або ніколі там не начавала.

Праз колькі дзён пазваніў Міхаілу Іванавічу, спытаў, ці магу зрабіць выпіскі, як на «ўсходніх крэсах» апалячвалі беларускіх дзяцей. Потым я выкарыстаў іх у аповесці «Вочы Начніцы», а фрагмент пра навучанне ў Бародзіцкай школе меркаваў працытаваць у нарысе пра нашага настаўніка. Блакнот з тымі выпіскамі па сённяшні дзень ляжыць у шуфлядзе майго стала.

«Аляксандр Міхайлавіч Голуб пачаў настаўнічаць падчас нямецкай акупацыі. Пазней гэта прынесла яму шмат непрыемнасцяў. Пачнуць хваліць як добрага педагога — і хтосьці абавязкова скрывіцца: “Ён жа працаваў пры немцах...” Улады ні ў чым яго не абвінавачвалі, аднак гэтае “але” часта гучала з вуснаў раённых функцыянераў і на педагагічных нарадах...»

«Мы вучыліся па савецкіх падручніках. Калі прыязджалі немцы, па трывозе збіралі кнігі і хавалі ў надзейнае месца. Часам ледзь паспявалі да прыходу нязваных гасцей...»;

«Кожны раз, калі бачу на плошчы Якуба Коласа бронзавыя фігуры дзяўчыны і Сымона-музыкі, прыпамінаю маленькую актрысу Надзю Конік у ролі Паўлінкі. Тактак, мы паставілі ў Бародзічах нават купалаўскую “Паўлінку”. Наш настаўнік быў рэжысёрам і харэографам, кіраўніком хору, сам напісаў дзве п’есы для школьнай сцэны. Яны паказвалі, як беларусы не зламаліся перад жахлівай стыхіяй...»

Неўзабаве я аддаў аўтару машынапіс, а ўзамен атрымаў манаграфію «Мікалай Судзілоўскі-Русель. Жыццё, рэвалюцыйная дзейнасць і светапогляд» з аўтографам: «Владимиру Ивановичу Яговдику, земляку и единомышленнику, на добрую память с наилучшими пожеланиями от автора. 20 июня 1984 г. Минск. Михаил Иосько.».



М. И. ИОСЬКО

НИКОЛАЙ СУДЗИЛОВСКИЙ-РУССЕЛЬ

*Жизнь, революционная деятельность и мировоззрение*

Владимиру Ивановичу Яговдику, земляку и единомышленнику, на добрую память с наилучшими пожеланиями от автора.
20 июня 1984 г.
Минск Мих. Иосько

ИЗДАТЕЛЬСТВО БГУ им. В. И. ЛЕНИНА
МИНСК 1976

Аўтограф Міхаіла ІОСЬКІ

У маладосці Аляксандр Міхайлавіч захварэў на сухоты, пасля аперацыі застаўся без аднаго лёгкага, а калі атрымаў пенсію, прычапіліся іншыя хваробы. Ларыса Геніюш напісала мне 29 жніўня 1982 г.: «Бачыла А. М. Голуба. Ледзь ужо ходзіць. Страшэнна худы. Шкада чалавека...» Ён памёр у кастрычніку чарнобыльскага 1986. На пахаванні мужчыны неслі па вёсцы дамавіну на плячах.

Восенню 2008 года, завітаўшы ў Бародзічы, я не пазнаў знаёмы падворак. У хаце жылі новыя гаспадары, яны спілавалі каштаны, што раслі каля вясніц. На могілках помнік Аляксандру Міхайлавічу ахінуў сівы лішайнік, але не заглушыў надпіс: «Людзі, я жыў для вас і ўсё, што знаў, аддаў вам». Над магілай Веры Аляксееўны (яна памерла ў сакавіку 2001 года) нахіліўся драўляны крыж.

Вяртаючыся ў Зэльву, я затармазіў каля чыгуначнага пераезда. Цераз дарогу ляцеў белы голуб. Раптам ён апусціўся на капот машыны, затым пераляцеў на слуп электрычнай апоры. Я ўключыў заднюю перадачу, ад’ехаў назад. Голуб расхінуў крылы, апусціўся на кабіну, проста над маёй галавой. Адчыніўшы дзверцы, я падхапіўся, але не ўбачыў птушку. Яна кудысьці знікла, хоць побач не раслі прысады, а да могілак было далекавата...

«Полное собрание русских летописей. Том тридцать второй. Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки Панцырного» — так называецца вялікі фаліянт, што ўбачыў свет у 1975 годзе пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук М. М. Улашчыка. Я паслаў гэтую кнігу ў Зэльву, а калі Аляксандр Міхайлавіч памёр, яго жонка вярнула мне падарунак. Паміж летапісных старонак ляжаць выразкі з газеты «Народная воля»: успаміны М. Іоські «Беларуская школа ў Райху» з прадмовай М. Скоблы і артыкул Т. Мананнікавай «Дзяцей трэба вучыць пры любой уладзе». Абедзве публікацыі з’явіліся ў студзені 2019 года з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння нашага Настаўніка.

# «Як жыць?»

## Надзея і безнадзейнасць у аповесцях Васіля БЫКАВА «Абеліск» і «Аблава»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1


Фота pxhere.com

Сумна, што шмат хто з герояў аповесці не разумее ўчынак Мароза і нават асуджае яго, як, напрыклад, Ксяндзоў. Маўляў, нічога добрага Мароз не зрабіў, учынак ягоны нерацыянальны. Застаўся б жывы, колькі яшчэ карысці прынёс бы Радзіме, колькі немцаў забіў бы... Як быццам бы такі чалавек, як Мароз, з такім сумленнем і такой душой, мог бы пасля жыць... У вайну яшчэ, напэўна, мог бы, ваяваў бы, не шкадуючы сябе. А вось пасля вайны, калі б выжыў, працаваць у школе не стаў бы. Лічыў бы сябе здраднікам самому сабе, сваім прынцыпам выхавання моладзі і сваім ідэалам. Як было б яму жыць, калі ён настаўнік па прызванні? Не вельмі разумелі гэта і Селязнёў, і Кузняцоў, і Ткачук, калі падавалі пра яго гібель звесткі вышэйшаму камандаванню, таму і не забівалі сабе асабліва галаву думкамі, як і што пісаць пра Мароза. Гэтыя людзі разам з паліцаем Каінам і яго хлуслівым рапартам немцам і стварылі ў аповесці безнадзейнасць. Бо што ж можна сказаць пра ўзровень духоўнага развіцця грамадства, у якім высакароднасць, сумленнасць, вернасць сваім ідэалам і ахвярнасць у імя любові расцэньваецца як нешта неразумнае, смешнае, недапушчальнае, нявартае памяці, а падлягаючае забыццю. Гэта безнадзейнасць і змрок.

Каб развеяць гэты змрок, Васіль Быкаў пакідае жывым вучня Алеся Іванавіча Мароза Паўліка Міклашэвіча. Хлопчыка ўратаваў настаўнік. У той час, калі арыштаваных вялі ў мястэчка, каб там павесіць, пасярод безнадзейнасці, Мароз даў Паўліку надзею, спытаў: «Бегчы можаш?» І Паўлік паверыў: калі настаўнік так кажа, значыць, ён ведае — уратавацца можна. Пабег. Яму прастрэлілі грудзі і, палічыўшы мёртвым, кінулі ў канаву з вадой. А ноччу яго падабрала бабка, у якой жыў Мароз. «І што ёй там трэба было? У прыцемках знайшла, вывалакла на сухое, думала, нежывы, і нават рукі на грудзях склала, па-хрысціянску каб. Ды чуе, сэрца нібыта стукае», — піша Васіль Быкаў. Што ёй там трэба было?

Дык гэта ж Бог яе паслаў да хлопчыка, каб усё ж на Беларусі не памірала надзея. Паўлік Міклашэвіч вырас, стаў таксама настаўнікам, быў добрым і сумленным чалавекам, быў хваравітым, але пражыў дастаткова для таго, каб вярнуць з бяспамяцтва светлае імя свайго настаўніка А. І. Мароза. Колькі сілаў яму каштавала прабіцца праз абыякавасць і мінулага з тымі непраўдзівымі дакументамі, і сучаснага з нячулымі, нядобрымі людзьмі! Але ж прабіўся. На абеліску побач з імёнамі вучняў з'явілася імя іх любімага настаўніка.

Такім чынам, трэба думаць, Мароз здаўся немцам, каб не забіць у сваіх вучнях надзею, паміраючы, пакінуў сваю надзею Міклашэвічу, той спраўдзіў яго надзею і перадаў сваім вучням, хоць камусьці з іх, усім прыкладам свайго жыцця, сваёй настойлівасцю, сваёй верай у святло і праўду, якіх ён дамогся.

У аповесці «Аблава» надзея памерла разам з галоўным героем Хведарам Роўбам, ці, больш правільна, крышку раней за яго. Я думаю, тады, калі ён, загнаны ў балота, трымаючыся за слізкі корань, амаль ужо захлынаючыся, пачуў голас сына: «Давай, давай! Яшчэ можна!» — гэта сын паказваў, куды трэба пырнуць шастом, каб дастаць бацьку. Яна памерла для ўсіх, акрамя самога Роўбы, бо ён, перапоўнены любоўю да сына, адзінага з усёй сям'і выжыўшага, працягваў спадзявацца і апраўдваць нашчадка: «Бедны Міколка: што ён перажывае цяпер? Пэўна ж, то не па сваёй волі — ён змушаны! Можа, яму загадалі? Які вышэйшы начальнік. Бо, мабыць жа, ёсць і над ім начальнік. І паслалі яго лавіць у лесе бацьку...» Бацькоўскія пачуцці ў Хведара настолькі моцныя, што ён у гэты трагічны момант, ужо ледзь жывы, думае не пра сябе, а пра сына: «каб астатні раз зірнуць і развітацца».

Надзея памерла, але Роўба доўга гэтага не ўсведамляе, не можа ў гэта паверыць. Сведчаць пра гэта яго апошнія страшныя думкі: «Калі выракся бацькі, дык, мабыць, можна і лавіць. Але калі такое магчыма, тады як жыць? Можа, яму яшчэ загадаюць, злавіўшы, зрабіць допыт над бацькам? І сын змушаны яго катаваць? Божа, нашто ты стварыў тады белы свет!»

На каго наракае Хведар? На Бога, на нейкіх вышэйшых начальнікаў, толькі не на сына. І гэта нягледзячы на тое, што чуе яго цвёрды голас: «Ляшчук, вунь туды пырані!» Гэта пасля таго, як ужо даведаўся ад выпадкова стрэчанага ў лесе селяніна пра жорсткасць свайго сына-начальніка, пра бязлітасныя паradкі, якія ён увёў у раёне, і пра тое, што адмовіўся ад бацькі. Хведар тады амаль не страціў прытомнасць, так яго скаланула гэтая вестка. Жудасна безабароннаму застацца зусім без надзеі, бо жыла ж яна ў сэрцы Роўбы, маленькая, няпэўная, ціхмяная, але цеплілася: у тое, што сын заступіцца, прыме, уратуе ад невыноснай несправядлівасці, што на яго навалілася... Ён жа начальнік... «што-нішто можа. Начальніку многае дазваляецца».

І ўсё ж Роўба калі не зразумеў, то адчуў, што ўсё безнадзейна, за некалькі хвілін да смерці, бо самым апошнім, што ён падумаў, было: «Шчаслівая яго маці, што не бачыць таго. І не чуе».

Страшна, што любоў бацькі да сына засталася ўшчэнт безадказнай. Сын лёгка страціў бацьку, страціў павагу, безумоўна, сумленных людзей. Але застаўся з пасадай, з уладай, з грашыма. Хто яго прымусіў? Начальнікі, што над ім, як хацелася думаць Хведару? Не, прымусіць да такога немагчыма, гэта ўласны выбар кожнага. Хтосьці выбраў бы беднасць, невядомасць і нават смерць... А калі б большасць выбірала апошняе, то не было б і безнадзейнасці, і бездухоўнасці, і грамадства, у якім страшна жыць.

Застаецца зразумець, адкуль бяруцца такія сыны-ненавіснікі. Можа, ад вялікай любові бацькоў да іх, ад вялікага да іх даверу? Бо Роўба-старэйшы паспяшаўся прызнаць сына разумнейшым і вучонейшым за сябе і перастаў супрацьўляцца яго нячулым паводзінам даўно, яшчэ тады, напрыклад, калі сын дамогся, каб выключылі з камсамола ягонага сябрука Шурку за тое, што пашкадаваў маці і не выкінуў яе абраз. Васіль Быкаў піша: «Хведар трохі падзівіўся з таго і неяк увечары мякка папракнуў сына... Міколка яму адказаў з нечуванаю раней строгасцю ў голасе: "Камсамол такіх ашуканцаў сцірае ў парашок!" — "Ну-ну!" — зважліва сказаў сабе бацька і пайшоў па сваіх хатніх справах. На тыя сынавы клопаты ён глядзеў тады, бы на дзівацтва малых. Малое — дурное, падрасце — паразумнее».

Сын, аднак, паразумнеў па-свойму. Бацька не заўважыў, што «строгі» сын перамог яго, «мяккага», перастаў паважаць і слухаць. Дазволіў ён сыну і свае абразы павыкідаць, нягледзячы на нязгоду маці. Не заўважыў бацька, што ўжо тады пачала адыходзіць з яго дома, з яго жыцця дабрыня, а «на змену ёй паявілася нешта новае — жорсткае і няшчаднае, пры чым такое, што не мела мэты ці мела толькі адну мэту — здзек».

Ідэалогія выхоўвала людзей у духу класавай непрымірымасці, але ж яна не патрабавала несправядлівасці і здзеку. Такой яе зрабілі людзі. Такія, як Роўба-сын, які ашалеў ад прыплыўшай яму ў рукі ўлады і звар'яцела кінуўся сцвярджаць сваю волю.

Хведар Роўба справядліва лічыць сябе вельмі нешчаслівым. А калі добра прыглядзецца і паразважаць над ягоным лёсам, дык можна заўважыць, што нешчаслівым яго зрабілі людзі, якія яму зайздросцілі, аднавяскоўцы. Гэта яны дамагліся, каб яго «вылучылі з грамады, выбракавалі, бы каросліваe свінчо са статка, і выкінулі далёка». Напрыклад, Зыркаш, які напісаў ажно ў Полацк, што ў Роўбы ёсць малатарня і што ён «дапусціў эксплуатацыю, непрацоўны даход». А што такога дрэннага зрабіў Роўба? Дазволіў аднавяскоўцам малаціць на ягонай малатарні і з кожнага браў грошы, колькі хто можа? Лепш было б, каб малаціў толькі сабе... Малатарню апячаталі, ніхто ні ў чым не разбіраўся, прамаўчаў і сын-камсамолец, хаця гэта ён у свой час настаяў, каб бацька купіў малатарню. Цырпукоў Зміцер, які быў вінен Хведару грошы і вельмі ж доўга не аддаваў, відаць, і не збіраўся аддаваць. А Хведар, задушаны цвёрдым падаткам, асмеліўся схадзіць да яго і запытаць, калі аддасць доўг. У хуткім часе Зміцер, які быў у актывістах камбеда, прапанаваў раскулачыць Хведара Роўбу. За што? За тое, што жыта змалаціў у яго дарма. Зноў усе прамаўчалі, і сын.

А вось Сокур Іван, які дапамагаў раскулачваць сям'ю Роўбаў. Ён, па загаду нейкага начальніка, зняў з Волечкі новыя, першы раз абутыя валёначкі, і ёй давялося ехаць на поўнач у старых, парваных. «Не, каб сказаць тым, з раёна: не па-боску гэта — разуваць малое, не ў цёплы ж край выпраўлялі — на поўнач, у маразы, у голад і здзек», — піша Быкаў. Так і паехала Волечка, і прастуджалася, і хварэла.

Яшчэ Рагаўцоў, з якім Хведар разам працаваў на плытах у ссылцы. Давялося браць з сабой дачушку пасля смерці маці і жонкі Ганны. А Рагаўцоў лаяўся пры ёй брыдка. Захацелася Хведару яе абараніць, зрабіў заўвагу, і са злосці наклікаў Рагаўцоў на плыты праверку. Волечка хавалася пад плытом у ледзяной вадзе, застудзілася і памерла. Брыгадзір Кузняцоў не заступіўся, хоць і быў, здаецца, не зусім дрэнным чалавекам. Адзінае, чым дапамог пасля, без просьбы даў даведку, з якой можна было спрабаваць уцячы. Зразумеў, што Роўба, страціўшы ўсё, ужо на ўсё здольны.

Апошні штрых — аднавяскоўцы, якія выйшлі лавіць былога земляка, які здолеў дайсці да родных мясцін. Няўжо такі ён быў дрэнны, што наклікаў на сябе такія страшныя адносіны? Чаму? Ад страху, ад бяздумства, ад маладушша ўсё гэта. Не знайшлося ніводнага чалавека, хто б сустрэў, паспагадаў, пакарміў. Баяліся апынуцца на месцы Роўбы.

Вельмі сумна, што на шляху гэтага чалавека не сустрэліся добрыя і мужныя, высакародныя і справядлівыя людзі, якія прымусілі б уладу разабрацца, трэба яго караць ці не. Роўбу ніколі ніхто не выслухаў, ніколі ніхто ні аб чым не спытаў. Хтосьці прапаноўваў пакараць, усе астатнія згаджаліся, пастанаўлялі і выконвалі. Рабілася ўсё пад выглядам класавай барацьбы, а на самай справе ішла барацьба міжасабовая, міжчалавечая, у якой перамагалі зайздрасць, баязлівасць, жорсткасць, грубасць, сквапнасць пры маўклівай прысутнасці абыякавасці.

Сын мог зрабіць для бацькі тое, што зрабіў Паўлік Міклашэвіч для Настаўніка, або перастаць быць начальнікам, але застацца Сынам. Але ён не так быў выхаваны, не такі быў чалавек. Таму ў творы пануе безнадзейнасць. Усё паглынула балота: і надзею, і мяккага ды безабароннага Хведара Роўбу, і ягонага сына, і тых шэрых маўклівых людзей, якія пакорліва выконвалі бязглуздыя загады, і тых недачалавекаў, якія помсцілі Роўбе за тое, што ён быў лепшым за іх, і саму ідэалогію, якая спачатку счарнела ад гэтага ўсяго, а пасля кінулася рэабілітаваць мільёны Роўбаў, несправядліва знішчаных.

Што ўсё ж такі застаецца ў гэтай аповесці святым і светлым? Застаецца Радзіма. Да яе імкнецца няшчасны Хведар Роўба, бо ён, «калісьці гвалтам адарваны ад яе, здаецца, здзічэў нутром ад самоты па ёй, спарахнеў розумам». Вярнуўшыся да яе, ён, нягледзячы на ўсе свае страты і выкрасленасць сваю з жыцця, — шчаслівы! «О, памерці тут, знайсці вечны прыстанак у родным кутку было б найвялікшым шчасцем, пра якое ён не адважваўся і марыць...»

Ён атрымаў гэтае шчасце: Радзіма прыняла яго ў сваю зямлю. Яна чакала яго, у адрозненне ад людзей, якімі акружыў яго горкі лёс. Радзіма чакала яго, таму што ганарыцца і ўзбагачаецца духоўна яна менавіта такімі бясконца ўлюбёнымі ў яе сынамі, як Хведар Роўба, які ніколі не абвінавачваў яе ў сваіх пакутах і нават дараваў за іх усім сваім крыўдзіцелям, як і Алесь Іванавіч Мароз, які не баяўся быць не такім, як усе, і абвяргаць сваім жыццём правілы ды нормы, зручныя для абывацеляў, і як Паўлік Міклашэвіч, які прымусіў няверуючых прызнаць яго праўду.

Пакуль ёсць Радзіма, ёсць і надзея на лепшыя часы для яе і яе людзей.

# Стваральнік сентыменталізму Лорэнс Стэрн



Таццяна ШЫПІЛАВА

Лорэнс Стэрн (1713—1768) — дзіўны чалавек сваёй эпохі. Будучы святаром, ён прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці краіны, да таго ж вольна друкаваў свае літаратурныя опусы.

Адзін з самых яго значных раманаў «Жыццё і меркаванні Трыстрама Шэндзі, джэнтльмена» складаецца з 9 (дзевяці!) тамоў. Пастар, прапаведнік, але і бунтар у літаратуры, ён ламаў ужо даўно сфармаваны раман аб прыгодах і станаўленні таго ці іншага героя, да якога прывыкла ангельская публіка XVIII стагоддзя, выхаваная на класіцыстычных законах дыдактычнага аповеду. Ламаў і кпіў з прывычнай формы, як некалі гэта рабіў Рабле, які аказаў вялікі ўплыў на творчасць англійскага пісьменніка.

Уводзячы ў загаловак слова «меркаванні», Стэрн наўмысна зрушвае сюжэт рамана з дынамічных падзей на развагі і ўспаміны свайго героя, перыядычна сыходзячы ў такі струмень прытомнасці, якому пазайздросціў бы (а ён і зайздросціў, і ад яго адштурхваўся) сам Джойс.

Стэрн так шчыльна працуе з чытачом, што ў нейкі момант пачынаеш усведамляць, што над табой альбо здзекуюцца, альбо пацяшаюцца, альбо і насамрэч просяць тваёй уважлівасці і парады, ці ўсё разам узятае. Пустыя, рознакаляровыя, чорныя старонкі, графічныя знакі, малюнкі — усё гэта ўводзіць Лорэнс Стэрн, прымушаючы зусім па-іншаму паглядзець у прынцыпе на тэкст і яго структуру.

Але самае галоўнае яго дасягненне — стварэнне цэлага літаратурнага кірунку. І што ён дзеля гэтага зрабіў, спытаеце? Адказ просты: ён з'ездзіў у падарожжа. У сентыментальнае падарожжа. І апісаў яго ў рамане, які так і назваў: «Сентыментальнае падарожжа па Францыі і Італіі». І ад гэтай назвы атрымаўся «цэлы» сентыменталізм, які захапіў усю Еўропу і нават адгалоскамі прыйшоў да нас, дзе ён прадстаўлены вельмі бедна.

Мы прывыклі, што сентыменталізм — гэта нешта такое залішне эмацыйнае, нават залішне плаксівае і нешта там пра любаванне прыродай. У асноўным сентыментальныя раманы да нас прыходзілі з Еўропы. Але зусім іншы сентыменталізм стварыў калісьці Лорэнс Стэрн. Ён, як адначасова з ім Дэні Дзідро ў Францыі, піша нібыта гісторыю падарожжа, але не падарожжа як такое прыцягвае аўтара і яго героя Ёрыка, які, без сумневу, з'яўляецца альтэр-эга самога аўтара. Яго вабяць людзі. Вялізны, цудоўны гатычны сабор будзе не заўважаны, затое дзяўчына з зялёным атласным кашальком прыцягне яго ўвагу. Гутарка з філосафам не ўяўляе асаблівай цікавасці, нашмат больш павучальны чалавек, які шчыра плача над мёртвым аслом. Галоўнае — з якога ракурсу паглядзець.



Партрэт Лорэнса СТЭРНА

Лорэнс Стэрн упершыню сутыкнуў погляд на маштабнае і глабальнае з поглядам на маленькага чалавека і паказаў, што маленькі чалавек, яго пачуцці, эмоцыі, развагі, перажыванні нашмат цікавей. Стваpаючы пароды на ўжо існуючыя жанры, ён прасунуў літаратуру наперад настолькі, што наступныя пакаленні спрачаліся аб яго спадчыне: хтосьці пляваўся, хтосьці захапляўся, але нельга не прызнаваць яго шырокага розуму (толькі цытаты, якія ён у вялікай колькасці раскідвае па старонках сваіх раманаў, сведчаць аб вялізнай начытанасці гэтага чалавека); і іранічнага, поўнага гумару погляду на жыццё хапае, каб раз і назаўсёды ацаніць ангельскага пастара як аднаго з самых галоўных насмешнікаў сусветнай літаратуры.

Словам, як пісаў Стэрн, «чым больш руху, тым больш жыцця і больш радасці, а сядзенне на месцы і павольная язда — гэта смерць і д'ябал».

# Жорж Санд — суперніца рамантызму і вяшчунка эмансіпацыі



Вікторыя ВАСЯНКОВА

*«Нашыя нашчадкі, мусіць, усміхнуцца над той колькасцю слоў, фантазіі, прыёмаў, якая спатрэбілася, каб выказаць гэтыя збітыя ісціны, але яны не наракаюць на нас, выявіўшы ў глыбіні нашай творчасці вялікую трывогу, і зразумеюць па няскладнасці нашых прамоў, якую барацьбу нам давялося вытрымаць, каб падрыхтаваць іх перамогу».*

***Жорж Санд***

Амандзін Аўрора Люсіль Дзюпэн, значна больш вядомая пад псеўданімам Жорж Санд (1804—1876), увайшла ў літаратуру ў 30-х гадах дзевятнаццатага стагоддзя зусім маладой дзяўчынай. Пачынаючы з першых сваіх раманаў («Валянціна», «Індыяна»), яна ўсхвалявана і смела гаварыла пра бяспраўе жанчыны, пра зняважальнае становішча, на якое тая асуджана з-за галоўных правілаў уласніцкага грамадства, ды і ў цэлым — аб пратэсце супраць любой формы несправядлівасці і знявагі з чалавека.

Нароўні з Віктарам Гюго Санд узначаліла дэмакратычнае крыло французскай літаратуры. У 1840-я гады, на хвалі мінулых рэвалюцый і антыраялісцкіх настрояў, французскае грамадства ўсё больш рашуча выступала ў абарону сваіх правоў, і ўсё гучней гучаў голас пісьменніцы ў яго падтрымку. Герой яе твораў — чалавек з народа: млынар, цясляр, рамеснік, усе тыя, каго яна надзяляла рысамі высакароднасці, сумленнасці, любові да працы і чалавечнасцю.

У свае раманы Жорж Санд яркім узорам уплятала ідэі сацыяльнай справядлівасці і асуджэння жорсткасці эліты. Гэтыя агульныя пратэстныя настроі знаходзілі самы непасрэдны водгук і сярод тых, каго ў савецкі перыяд нашае літаратуразнаўства лічыла прадвеснікамі рэвалюцыйных дэмакратаў. Той жа В. Г. Бялінскі «захапляўся» вобразам вясковага багацея Брыкалена з рамана «Млынар з Анжыба», бачачы ў ім



«Партрэт Жорж САНД»
Эжэна ДЭЛАКРУА

рысы «сапраўднага прадстаўніка невуцтва, прагнасці да грошай, скупасці, ганебнасці пачуццяў, абмежаванасці розуму, дробнасці душы таго саслоўя ў Францыі, якое зацвердзіла сваё грамадзянскае і палітычнае валадарства на залатым мяшку».

Жорж Санд шчыра была перакананая, што толькі народ з'яўляецца сапраўдным творцам і захавальнікам культуры, гарача адстойвала правы і абавязак мастака быць «рэхам чалавецтва, якое хвалюецца ці скардзіцца, адчайваецца ці радуецца». Пісьменніца была рашучай суперніцай рамантызму, лічачы яго рэакцыйным. Так, у сваім рамане «Орас» яна выказала непрыязнасць да гэтай плыні, надзяліўшы галоўнага героя, пыхлівага эгаіста Ораса, ідэямі аб уласнай выключнасці, якія толькі хаваюць унутраную спустошанасць і баязлівасць. Сапраўдных жа герояў Санд знаходзіла ў героях барыкадных баёў, з вялікай увагай сачыла за маладой працоўнай паэзіяй, дапамагала аўтарам-пачаткоўцам, выдавала зборнікі іх вершаў.

Творчасць Жорж Санд выклікала гарачую цікавасць і бурную палеміку далёка за межамі Францыі, яе імя вельмі цесна сплялася з гісторыяй развіцця еўрапейскай інтэлігенцыі. М. Салтыкоў-Шчадрын пісаў у кнізе «За мяжой», што для рускіх людзей XIX стагоддзя яе раманы ўвасаблялі мастацтва высокаідэйнае і гераічнае. Вялікім сябрам пісьменніцы быў І. Тургенеў, чые «Нататкі паляўнічага» з'явіліся не без уплыву сельскіх аповесцяў Жорж Санд...

І, вядома ж, Жорж Санд адыграла значную ролю ў тым працэсе, які атрымаў назву «эмансіпацыі». У Францыі, як і ва ўсіх краінах таго перыяду, для жанчын не існавала грамадзянскіх правоў, яны былі пазбаўлены не толькі права выбараў, але і права займаць грамадскія пасады, правы на вышэйшую адукацыю і нават правы кіравання маёмасцю ва ўласнай сям'і. У Францыі, як, напрыклад, і ў тагачаснай Расійскай імперыі, жанчына магла выступаць на грамадскай ніве толькі ў сферы мастацтва, і часцей за ўсё — не вышэй за літаратурны ці музычны салон у сваёй сям'і ці ў знаёмых. Санд першай зрабіла пралом у гэтай непахіснай каменнай сцяне. Пытанні аб пачуцці, аб свабодзе выбару, аб праве жанчыны на самастойную грамадскую і навуковую працу, закранутыя ў першых творах пісьменніцы, атрымалі небывалы водгук. «Жорж Санд, — пісаў Бялінскі, — гэта бясспрэчна першая паэтычная слава сучаснага свету. Якія б ні былі пачаткі яе, з імі можна не згаджацца, іх можна не падзяляць, але яе самой нельга не паважаць як чалавека, для якога перакананне ёсць вераванне душы і сэрца».

# Букераўская прэмія 2024 года

Лаўрэаткай 2024 года стала Саманта Харві. Яе ўзнагародзілі за кнігу «Orbital (Арбітальны)».

«Саманта Харві напісала раман, натхнёны прыгажосцю шаснаццаці ўсходаў і шаснаццаці заходаў. Пра ўсіх і ні пра каго, бо шэсць касманаўтаў на Міжнароднай касмічнай станцыі лётаюць вакол Зямлі, назіраючы за зменамі надвор'я, нягледзячы на хісткасць межаў і гадзінных паясоў. Сваёй лірычнай мовай і вастрынёй Харві робіць наш свет дзіўным і новым для нас», — сказаў на цырымоніі ўзнагароджання старшыня журы, мастак і пісьменнік Эдмунд дэ Вааль. «Наш кансэнсус па "Orbital" з'яўляецца сведчаннем яе прыгажосці і амбіцый. Гэта адлюстроўвае незвычайную ўвагу Харві да каштоўнага і далікатнага свету».



Паводле сюжэту, на Міжнароднай касмічнай станцыі дзяжураць шэсць астранаўтаў з ЗША, Расіі, Італіі, Вялікабрытаніі і Японіі. Яны выконваюць там жыццёва важную працу, але паступова пачынаюць задумвацца: а што такое жыццё без Зямлі? што зямля без чалавека? «Orbital» — адзін з нямногіх касмічных раманаў, намінаваных на Букераўскую прэмію за апошнія гады, і першы раман-пераможца, дзеянне якога адбываецца ў космасе. Маючы ўсяго 136 старонак, кніга з'яўляецца адной з самых «каротких» лаўрэатаў Букераўскай прэміі.

Саманта Харві — англійская пісьменніца і скульптар. У 2000-я яна працавала ў Музеі астраноміі Гершэля ў Баце, дзе была адкрыта планета Уран. Цяпер яна выкладае магістарскі курс творчага мастацтва, з'яўляецца аўтаркай пяці раманаў. У 2009 годзе Харві трапіла ў лонг-ліст Букераўскай прэміі за свой дэбютны раман «The Wilderness» пра пажылога архітэктара, які пакутуе на хваробу Альцгеймера.

Сярод 156 твораў журы адабрала ў шорт-ліст шэсць кніг. У гэтым годзе на прэмію таксама прэтэндавалі Персіваль Эверэт, Рэйчэл Кушнер, Эн Майклз, Яэль ван дэр Вудэн і Шарлота Вуд.

Букераўская прэмія — адна з самых прэстыжных літаратурных прэмій у англамоўным свеце і свеце ўвогуле. Першая прэзентацыя адбылася ў 1969 годзе. Спачатку фарміруецца лонг-ліст з 20—25 кніг, потым шорт-ліст з шасці. Пераможца атрымлівае 50000 фунтаў стэрлінгаў, а астатнія пяць фіналістаў атрымліваюць па 2500.

# Ганкураўская прэмія

122-ю па ліку Ганкураўскую літаратурную прэмію, якая таксама лічыцца адной з самых прэстыжных у свеце, атрымаў алжырскі франкамоўны пісьменнік Камель Дауд за раман пра падзеі вайны за незалежнасць Алжыра ў 1960-х і алжырскі канфлікт 1990-х гадоў «Гурыі».

Аўтар напісаў у сваім профілі ў сацсетцы X, што прысвячае перамогу сваім бацькам: «Гэта твая мара, аплачаная гадамі жыцця. Майму нябожчыку бацьку. Маме, якая яшчэ жывая, але нічога не памятае. Няма слоў, каб аддзякаваць».

Журналіст па прафесіі, К. Дауд нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мастаганэме (Алжыр), але быў вымушаны пераехаць у Францыю з-за пераследу і пагроз з боку ісламістаў. Раман «Гурыі» — гэта гісторыя алжырскай дзяўчыны Обы, ахвяры грамадзянскай вайны, якая доўжылася ў Алжыры з 1992 па 2002 год. З-за атрыманых траўмаў яна не можа гаварыць, таму вымушана жыць сам-насам са сваімі горкімі думкамі. Оба перажывае як апошнія падзеі, так і рэха вайны мінулых гадоў. Кніга забароненая ў Алжыры, бо раман супярэчыць артыкулу Хартыі міру і нацыянальнага прымірэння, які забараняе распальваць «раны нацыянальнай трагедыі», тэрмін, які адносіцца да падзей, у якіх ісламісцкія групы супрацьстаялі алжырскай арміі; загінулі ад 60 да 200 тысяч чалавек, а тысячы зніклі без вестак.



Камелю Дауду 54 гады. Ён вывучаў французскую літаратуру ў Аранскім універсітэце. Выступае калумністам. Яго першы раман, які выйшаў у 2013 годзе, раней патрапіў у шорт-ліст Ганкураўскай прэміі.

# Кніжны кірмаш у Шарджы

У Шарджы (Аб'яднаныя Арабскія Эміраты) пад дэвізам «Усё пачынаецца з кнігі» адбыўся 43-і Міжнародны кніжны кірмаш — найбуйнейшы ў арабскім свеце. Ён доўжыўся два лістападаўскія тыдні.

Гэта адзін з найбуйнейшых кніжных фестываляў. 400 аўтараў асабіста прадставілі свае кнігі. Сёлета тэму кірмашу сфармулявалі так: «Усё пачынаецца з кнігі (It Starts with a Book). Кніга ўвасабляе нашу веру ў тое, што шлях навучання і асабаснага росту пачынаецца з кнігі, якая служыць варотамі да бясконцых ведаў. І ў эпоху празмернасці інфармацыі асабліва важна прызнаць кнігі асноўным інструментам асабістай асветы, а ў канчатковым выніку і калектыўнага прагрэсу грамадства».

Праца на кірашы не заканчвалася і пасля заходу сонца, акрамя класічных сустрэч з пісьменнікамі і разнастайных дыскусій у праграме былі «Ночы паэзіі» на шасці мовах: арабскай, англійскай, урду, пенджабі, малаялам і тагальскай. Паэтычныя выступленні, якія суправаджаліся жывой музыкай, закліканы былі, па словах арганізатараў, сцерці моўныя і культурныя межы і дапамагчы прасякнуцца самім гучаннем вершаў.

Ганаровым госцем кірмаша ў 2024 годзе стала Марока, а таму дэсант адтуль быў асабліва вялікі: у Шарджы высадзілася больш за сотню мараканскіх кніжнікаў.

Міжнародны кніжны кірмаш у Шарджы быў заснаваны ў 1982 годзе пад патранажам Яго Высокасці шэйха доктара Султана бін Махамеда Аль-Касімі. Яго галоўная мэта — папулярызаваць чытанне сярод маладога пакалення і жыхароў рэгіёну, а таксама «ператварыць Шарджу ў свет творчасці».

Міжнародны кніжны кірмаш штогод выбірае «асобу года», каб звярнуць увагу на дзеячаў літаратуры, чые працы ўзбагацілі як арабскі, так і сусветны культурны ландшафт. «Асобай года» на кніжным кірмашы ў Шарджы ў 2024 годзе стала Ахлям Мустаганамі. Гэтая алжырская пісьменніца лічыцца адной з самых вядомых арабскіх раманістаў у свеце. Гэтага тытула яна ўганаравалася «за больш за пяць дзесяцігоддзяў пісьменніцкага майстэрства, служэнне арабскай літаратуры і ўменне захапляць чытачоў па ўсім арабскім свеце». Яна стала першай алжырскай пісьменніцай, чые кнігі былі перакладзены на англійскую мову. У сваіх раманах Мустаганамі закранае панарабскія і сацыяльныя тэмы, у тым ліку крытычна даследуе адносіны грамадства і жанчыны, а таксама разважае пра ключавыя гістарычныя падзеі, якія сфармавалі сучасную арабскую культуру. Нябожчык прэзідэнт Алжыра Ахмед Бэн Бэла нават назваў яе «зззяючым алжырскім сонцам у арабскай літаратуры».



Ахлям МУСТАГАНАМІ

# Мемарыяльная шыльда ў гонар Васыля Стуса

У Святошынскім раёне Кіева адкрылі мемарыяльную дошку паэту і дысідэнту. Менавіта ў тым доме, па вуліцы Чарнобыльскай, 13а, Васыль Стус правёў з сям'ёй 9 месяцаў свайго жыцця — са жніўня 1979-га па травень 1980-га, перш чым быў другі раз зняволены і забіты савецкімі ўладамі.

На адкрыццё шыльды (бронзавы бюст вагой больш за 40 кілаграмаў узвышаецца на гранітнай падстаўцы з цытатай «Кіеў ідзе за мною ў снах...») прыйшло шмат людзей, каб аддаць даніну памяці творцу. Яны ўшанавалі памяць Васыля Стуса і ўсіх дзеячаў культуры, закатаваных савецкай уладай за імкненне да свабоды і незалежнасці Украіны.



Ахвяраванні на ўшанаванне памяці паэта ўнеслі больш за 700 мецэнатаў. Скульптар Уладзімір Шчур паведаміў, што ўжо гатовы вялікі бронзавы помнік Васылю Стусу, які яны хацелі б усталяваць у цэнтральнай частцы Кіева.

На адкрыццё шыльды прыехалі старэйшая сястра Васыля Стуса і яго сын.

Васыль Стус (1938—1985) — украінскі паэт-шасцідзясятнік, перакладчык, публіцыст, празаік, мысляр, літаратуразнавец, праваабаронца, палітвязень СССР, дысідэнт, змагар за незалежнасць Украіны, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Т. Шаўчэнкі (1991, пасмяротна), Герой Украіны (2005, пасмяротна). За перакананне ў неабходнасці захавання і развіцця ўкраінскай культуры ён быў рэпрэсаваны савецкай уладай, яго творчасць была забароненая і часткова знішчана, а сам ён быў прысуджаны да працяглага зняволення, дзе і памёр.

# «Маленькі прынц» на продажы ў Абу-Дабі

Рэдкі машынапіс «Маленькага прынца» Антуана дэ Сэнт-Экзюперы са шматлікімі рукапіснымі праўкамі аўтара выстаўлены на продаж. Артэфакт утрымлівае, як мяркуюць, першае пісьмовае з'яўленне знакамітых радкоў: «On ne voit bien qu'avec le cœur. L'essentiel est invisible pour les yeux», што ў перакладзе азначае: «Толькі сэрцам можна бачыць правільна. Істотнае воку нябачна». У ранейшых чарнавіках Сэнт-Экзюперы «гуляў з фразай, круцячы яе ў галаве», — патлумачыў Сэмі Джэй, старэйшы літаратурны крытык лонданскага кнігагандляра Пітэра Харынгтана.

Кошт рукапісу — 1,25 мільёна долараў ЗША. Ён выстаўлены на штогадовым мастацкім кірмашы Абу-Дабі ў ААЭ.

Сама ж кніга была выдадзена ў ЗША ў 1943 годзе на французскай і англійскай мовах пад назвай «Маленькі прынц», а ў Францыі — у 1946 годзе. Акрамя рэлігійных тэкстаў, гэта самая перакладаная кніга ў свеце. Сэнт-Экзюперы напісаў яе ў Нью-Ёрку, знаходзячыся ў эміграцыі з акупаванай Францыі. Перад вяртаннем на вайну Сэнт-Экзюперы пакінуў арыгінал рукапісу «Маленькага прынца» (які цяпер захоўваецца ў Бібліятэцы Моргана ў Нью-Ёрку) у кватэры сваёй каханай Сільвіі Гамільтан. Адна з іншых копій машынапісу захоўваецца ў Цэнтры Гары Рэнсама ў Осціне, штат Тэхас (ЗША), яшчэ адна — у Нацыянальнай бібліятэцы Францыі ў Парыжы.

Выстаўленая на продаж версія — адзіная копія, якую Сэнт-Экзюперы захоўваў як сваю працоўную. Пісьменнік пакінуў ЗША ў красавіку 1943 года і, як мяркуюць, загінуў падчас разведвальнай місіі ў ліпені 1944 года.

# Попыт на кнігі пасля перамогі Трампа

Кнігі пра дэмакратыю, антыўтопію, тыранію, фемінізм і ўльтраправую палітыку ўзляцелі ў чарты бестсэлераў пасля перамогі Дональда Трампа на прэзідэнцкіх выбарах у ЗША. Пра гэта паведаміў брытанскі таблоід «The Guardian».

Што пакупнікі вырашылі прачытаць? Вось прыведзены там рэйтынг антыўтопій у кнігарнях. Раман Маргарэт Этвуд «Аповед служанкі», дзеянне якога адбываецца ў таталітарным грамадстве, у якім жанчыны вымушаны нараджаць, падняўся больш чым на 400 пазіцый у чартах бестсэлераў з дня прэзідэнцкіх выбараў у ЗША. У цяперашні час кніга займае трэцяе месца ў спісе бэстсэлераў Amazon. Імклівы рост продажаў перажыў і працяг «Аповеду служанкі» — «Запавет». «Адчай — гэта не варыянт. Гэта нікому не дапамагае», — напісала Этвуд у паведамленні на X пасля вынікаў выбараў. Тое самае можна сказаць і пра кнігу гісторыка Цімаці Снайдэра «Аб тыраніі», якая апынулася на восьмым месцы пасля таго, як у лістападзе паднялася на сотні пазіцый.

Чытачы ўсё часцей таксама звяртаюцца да таталітарнай антыўтопіі Джорджа Оруэла «1984», якая паднялася на 16-е месца.

«Democracy in Retrograde» Самі Сэйджа і Эмілі Амік займае першае месца ў рэйтынгу, у якім размешчаны кнігі з найбольшым ростам продажаў за апошнія суткі. «Мужчыны мне тлумачаць рэчы» Рэбекі Солніт таксама паднялася больш чым на 40 000 месцаў за першы дзень пасля выбараў. Зборнік феміністычных эсэ 2014 года цяпер знаходзіцца ў сярэдзіне чарту бестсэлераў. (Рэбека Солніт, пішучы пра амерыканскія выбары, адзначыла, што «расізм і жанчыначенавісніцтва не такія дрэнныя, аказваецца, незалежна ад таго, хто быў гатовы прагаласаваць за высокакваліфікаваную чарнаскурую жанчыну або хто быў гатовы прагаласаваць за прызнанага гвалтаўніка і асуджанага злачынцу, якія захапляецца Гітлерам».)

«Перабежчыкі» Паолы Рамас пра рост ультраправых настрояў сярод лацінаамерыканцаў падняліся на тысячы пазіцый пасля таго, як Трамп перамог (на выбарах 2024 года ён дасягнуў значных поспехаў сярод лацінаамерыканцаў, асабліва мужчын). У трэндзе таксама кніга брытанскай пісьменніцы Лоры Бэйтс «Мужчыны, якія ненавідзяць жанчын» пра радыкалізацыю маладых людзей у інтэрнэце. Паводле экзіт-полаў, амаль палова тых, хто прагаласаваў за Трампа, — маладыя мужчыны. Мемуары ж Камалы Харыс «Truths We Keep» за суткі падняліся амаль на дзве тысячы пазіцый і занялі 345 месца ў чарце бестсэлераў. Пры гэтым папулярнымі застаюцца і мемуары Меланіі Трамп.